# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**№22**
**(2528)**

**29 мая 1997 г.**
**Выдаецца з 1955 г.**

**Цана 1 000 рублёў.**


*ТВОРЧАЯ ВЕЧАРЫНА СЯРГЕЯ ПАНІЗЬНІКА*

## ПРЫСУТНАСЦЬ У ЧАЛАВЕЧЫХ СЭРЦАХ

Сяргея Панізьніка рэдакцыя "Голасу Радзімы" лічыць сваім вельмі-вельмі даўнім аўтарам. І не без падстаў. Бо калі газета існуе 40 гадоў, то творы С. Панізьніка друкуюцца на яе старонках больш за 30 гадоў. У дні сваёй шчаслівай маладосці і гады горкія несправядліва пакараны паэт знаходзіў у супрацоўнікаў рэдакцыі разуменне, спагаду і маральную падтрымку. Гартаючы старыя падшыўкі, знайшла невялікую падборку вершаў Сяргея Панізьніка, змешчаную ў лютаўскім нумары "Голасу Радзімы" за 1967 год.



**НА ЗДЫМКУ: Сяргей ПАНІЗЬНІК (у цэнтры) з кампазітарамі Алегам ЧЫРКУНОМ, Ганнай КАЗЛОВАЙ, Міколам ЯЦКОВЫМ.**

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

### БУДЗЬМА РАЗАМ І НАДАЛЕЙ

**Шаноўныя чытачы!**

**Працягваецца падпіска на другое паўгоддзе 1997 года.**

**Падпішыцеся на "Голас Радзімы", і вы будзеце ў курсе падзей, што адбываюцца ў Беларусі, даведаецеся пра жыццё беларусаў за мяжой, адкрыеце для сябе новыя імёны, пазнаёміцеся з навінамі культуры.**

**Спяшайцеся: падпіска доўжыцца да 15 чэрвеня.**

**Кошт падпіскі:**
**на 1 месяц — 4 тысячы рублёў**
**на 3 месяцы — 12 тысяч рублёў**
**на 6 месяцаў — 24 тысячы рублёў.**

ДА 80-годдзя З ДНЯ СМЕРЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

## ГРУК ХАДЫ АДЗІНОКАЙ ЗДАЛЁКУ ЧУВАЦЬ

Далёка Максімава Ялта — бераг сцішэлай самоты. Прыбілася хваля яшчэ вясновай, спамінку Паэта. Здалёку Максімава ясная зора ўглядаецца ў наша змярканне нямое. Прыбілася хваля кахання, вянчанага адзінотай. Прачнулася хваля маёвай надзеі — на ўзлёце расстанным. Здалёку ўплываюць у лёс мой дарогі Паэта... Далёка блукае балеснае рэха Пагоні — шукае прыстанку. Узвершыўся час да "Страцім-лебедзь — моцны, горды птах". Над якім узыходзіць вянок дзён, асвечаных сустрэчаю нашай з Максімам, бо гляджу і я ў расстанні на зорку Венеру — "там з ёй зліём мы пагляды свае..." "І ў яго калісь бывала мысль супольная з маёю, тая ж хваля пачуцця. Усё калісь перажытое пакідала след у сэрцы і ляжала нерухома цёмнай залежжу, пластом"...

Але збудзіўся ўпластаваны ў нашчадкаў Страцімавых — над "Краінай-браначкай". Стаім на скрыжалях вякоў і пытаемся роспачна: "Хто мы такія? Толькі падарожнікі — папутнікі сярод нябёс". Падказвае вечнасць шляхі, што відны Багдановічу: "Усе мы разам ляцім да зор". Замольвае вечнасць Максімавым болем нязгоеным: "...Не давайце чужынцамі быць". Да нябачнае вышы, да новае эры — Максімавай — "ўсё лятуць і лятуць тыя коні!" з прадаўнасці. Каб нарэшце пачулі ўсе тыя, што "не сваю — чужую долю баранілі. Пад чужымі сцягамі ўміралі", "як сэрца начамі Аб радзімай старонцы баліць". Каб згадалася вечнамудрае: "Калісь глядзеў на сонца я. Мне сонца асляпіла вочы" — замова супраць ночы, на перамогу святла і красы, "дзе нікнуць сцені цяжкіх дум".

"Душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах", мы прыпадаем стомна да красы, каб выпіць "чару поўную да дна" — і стаць сабой сапраўднымі прад светам. Каб зоркі патаемна пабліжэлі і працяла часы наскрозь Любоў. Бо гэтак жа, "як той алень шукае Крыніцы чыстай, шукаю Бога я", шукаю існы шлях, над якім узляціць яшчэ нетры голас — "і вось той гул мне ў душу ўліўся". І "ўсё жыццё цяпер, як лёгкая завея" — завея, што змяцельвае вякі, каб у прасторы звесці нас з Максімам...

Уздыхнулі над гэтай зямлёю заспанай 80 вёснаў — без Максіма. Сышлі ў гэтую сырую зямлю безліч Страцім-лебедзяў адзінотных, што прасілі-малілі наўколле аглухлае; "Вы ўзляціце хоць на час які, Выбіваюся з астатніх сіл, Дайце вы грудзям, гэй, вальней ўздыхнуць! Дайце вы крылам, гэй, шырэй ўзмахнуць!". Адцвіў 80 летаў "цвяток радзімы васілька". А Максімава "зорка ў цемні ляціць, Усіх чаруючы светлам сваім", каб "Усё кругом на мамент асвяціць і пагаснуць у цёмнай імглі". А касачы на Максімавай магіле журботна пераглядаюцца: "Успамянем, мой дружа, у багатай чужыне аб беднай далёкай сваёй старане". А малады Максім усё чуйна слухае "ў цішы, як расце трава", як пульсуе крыніца волі, "каторая магутна, гучна мкне. Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца"... А неспакойны Максім усё здзіўлена-замі-

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

ЛІТАРАТУРНАЯ ПАЛІТРА

## «ЛАЛІТА...» Ў ТРОХ ВЫМЯРЭННЯХ

Напэўна, кнігі, як і людзі, маюць не толькі свой твар — вокладку, але і сваю душу. І гэткім самым чынам, як мы адчуваем і спазнаем яе ў чалавеку — нават тады, калі не згаджаемся са знешнім малюнкам убачанага (суровага з выгляду — успрымаем добрым і мяккім, а нібыта шчыраму і ўсмешліваму — ані не давяраем), амаль тое самае адбываецца і пры знаёмстве з кнігамі: нават не разгортваючы яе — адно разглядваючы з усіх бакоў, — мы, як губка, упітваем у сябе ўсю інфармацыю, нават самую нязначную і неістотную на першы погляд, і, перапрацоўваючы яе, зразумела, на падсвядомым узроўні, дакранаемся тым самым да нябачнай, але, як ні дзіўна, вельмі рэальнай субстанцыі кнігі — да яе душы! — і ўжо ў гэты — самы першы момант знаёмства — зноў-такі інтуітыўна! — вызначаем для сябе, кім будзе для нас кніга — сябрам і дарадцам, або яе лепей адразу адкласці ўбок і ніколі болей не чапаць.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Рэстаўрацыя кафедральнага касцёла на плошчы Свабоды ў Мінску.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВІЗІТ ПРЭЗІДЭНТА



Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка наведаў Дрыбінскі раён Магілёўскай вобласці. Кіраўніцтва краіны канчаткова вырашала пытанне: ці быць Дрыбіну паўнацэнным раённым цэнтрам.

Нядаўняе з'яўленне Дрыбінскага раёна на карце нашай краіны напрамую звязана з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай аварыі. На тэрыторыі гэтага "маладога" раёна размешчана шэсць буйных пасёлкаў для перасяленцаў з забруджаных мясцін Магілёўшчыны, у якіх жыве пяць тысяч чалавек. Дарэчы, А. Лукашэнка падчас свайго візіту пазітыўна выказаўся аб змене статуса Дрыбіна, і гэтая тэрытарыяльная адзінка хутка афіцыйна будзе называцца горадам. Ён паставіў перад сваімі падначаленымі дакладную задачу: Дрыбін павінен быць пабудаваны на пачатку наступнага года.

НА ЗДЫМКУ: сустрэча на дрыбінскай зямлі.

УСТАНОЎЧЫ З'ЕЗД

### ПАДЗЯЛІЦЦА ЎЛАДАЙ

Адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага патрыятычнага саюза моладзі. У яго рабоце прымалі ўдзел Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, Старшыня Савета Рэспублікі Павел Шыпук, Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў, іншыя афіцыйныя асобы.

Звыш тысячы двухсот ініцыятыўных груп па стварэнню новай маладзёжнай арганізацыі дэлегіравалі на з'езд тысячу сто юнакоў і дзяўчат з усёй рэспублікі. Як адзначыў, адкрываючы з'езд, кіраўнік аргкамітэта па стварэнню БПСМ Усевалад Янчэўскі, назва патрыятычнага саюза глыбока сімвалічная.

"Я ўжо не раз меў магчымасць пераканацца, што фармальным і "кішэнным" наш саюз не стане. Ён будзе цікавай і ініцыятыўнай арганізацыяй", — сказаў Усевалад Янчэўскі. Разам з тым ён не адмаўляў, што БПСМ у нечым будзе нагадваць камсамол, у прыватнасці, сваёй арганізацыйнай структурай. Аднак, паводле яго пераканання, новы маладзёжны саюз адкіне ўсе горшыя якасці ВЛКСМ.

Завяршылася першае пленарнае пасяджэнне устаноўчага з'езда БПСМ выступленнем Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Ён адразу ж падкрэсліў, што ніякага націску на Патрыятычны саюз моладзі з боку дзяржаўных структур не будзе. Наадварот, кіраўніцтва краіны мае намер дапамагаць гэтай арганізацыі ва ўсіх яе добрых пачынаннях.

Сярод пытанняў, якія мог бы вырашаць Беларускі патрыятычны саюз моладзі, Аляксандр Лукашэнка назваў падтрымку сацыяльна не абароненых маладых людзей і таленавітай моладзі, а таксама выхаванне падрастаючага пакалення. Завяршаючы сваё выступленне, кіраўнік дзяржавы сказаў, што пойдзе на тое, каб перадаць частку функцый дзяржаўных структур патрыятычнаму саюзу. Ён яшчэ раз паўтарыў, што гатоў падзяліцца сваёй уладай з моладдзю.

Такім чынам, у Беларусі створана новая маладзёжная арганізацыя, якая будзе цесна ўзаемадзейнічаць з дзяржавай. Узначаліў БПСМ, як і чакалася, старшыня арганізацыйнага камітэта па стварэнню гэтай арганізацыі Усевалад Янчэўскі.

У ЖЫРОВІЦАХ

### СВЯТА ІКОНЫ

Свята цудатворнай іконы Божай Маці (Жыровіцкай) адзначыла 20 мая Беларуская праваслаўная царква. Пакланіцца адной з хрысціянскіх святынь Беларусі прыйшлі вернікі з усёй рэспублікі, а таксам з Расіі, Польшчы, Украіны і краін Балтыі.

Боскую літургію ў гонар праваслаўнай святыні ва Успенскім саборы Жыровіцкага манастыра правёў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Ён адзначыў аб'ядноўваючую ролю гэтага свята, таму што Жыровіцкую ікону Божай Маці аднолькава шануюць як праваслаўныя, так і католікі.

ЗА ПАЛІТЫЧНУЮ ПУБЛІЦЫСТЫКУ

### АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА — ЛАЎРЭАТ ШОЛАХАЎСКАЙ ПРЭМІІ

Рашэннем камісіі па прысуджэнню Міжнароднай прэміі імя Міхаіла Шолахава, якую ўзначальвае вядомы пісьменнік і грамадскі дзеяч Юрый Бондараў, Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку прысуджана Міжнародная шолахаўская прэмія 1997 года.

Як адзначаецца ў прывітальнай тэлеграме, званне лаўрэата прысуджана Аляксандру Лукашэнку за вялікі ўклад у палітычную публіцыстыку, якая змагаецца за сацыяльную справядлівасць і цеснае яднанне брацкіх славянскіх народаў Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі.

Трэба адзначыць, што Міжнародная прэмія імя Міхаіла Шолахава існуе з 1993 года. Сярод яе лаўрэатаў вядомыя пісьменнікі, грамадскія і палітычныя дзеячы.

УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА

### ПА ЗАСЛУГАХ

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за вялікія заслугі ў развіцці тэатральнага мастацтва артыст Дзяржаўнага акадэмічнага рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага Сідараў Юрый Уладзіміравіч узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Ганаровыя званні ўказам кіраўніка дзяржавы прысвоены яшчэ двум дзеячам нацыянальнай культуры: мастацкаму кіраўніку народнай харавой капэлы настаўнікаў Брэсцкага гарадскога Дома культуры Ганне Сцяпанаўне Пячэнкінай — ганаровае званне "Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь"; пісьменніку, загадчыку рэдакцыі літаратуры, этнаграфіі і фальклору "Беларускай энцыклапедыі" Івану Данілавічу Сіпакову — ганаровае званне "Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь".

АД АМЕРЫКАНСКАГА НАРОДА



Пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Кенет Яллавіц падарыў звыш 1 300 кніг Еўрапейскаму гуманітарнаму ўніверсітэту, што працуе ў Мінску. Гэтая бібліятэка — дар мінскім студэнтам ад амерыканскага народа.

НА ЗДЫМКУ: пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Кенет Яллавіц (злева) і рэктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта Анатоль МІХАЙЛАЎ.

ВЫСТАВЫ

### АД ЛЯМПАЧКІ ЭДЗІСОНА ДА ТРОХМЕРНАЙ ПРАСТОРЫ

Бадай, гэта адна са складанейшых задач выяўленчага мастацтва — пісаць святло. Восемдзесят работ мастакоў розных краін, эпох і стыляў аб'яднала унікальная выстава, што прыехала ў Мінск з Галандыі і якая называецца "Святло і жывапіс".

Палотны імпрэсіяністаў, рэалістаў, сюррэалістаў, скульптура, дызайнерскія мнагамерныя імпрэсіі — такія жанры работ, прадстаўленых беларускаму гледачу ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Менавіта гэты фантазійны росквіт стыляў і жанраў дае найбольш поўнае ўяўленне аб тым, што такое святло для мастака і якія перспектывы адкрываюцца перад творцам са з'яўленнем найноўшых тэхналогій.

ПРАЗ 40 ГОД



Праз сорак год сустрэліся былыя вучні Крычаўскай сярэдняй школы № 4 — цяперашнія ўрачы і педагогі, інжынеры і рабочыя. І, як некалі на ўроках, прыйшла да іх настаўніца рускай мовы і літаратуры Зінаіда КЛІМЯНКОВА. Вядома, былі словы радасці і падзякі, былі кветкі прызнання — лепшая адзнака шматгадовай працы.

БЕЛАРУСЬ — НАТО

### ПРАГРАМА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Аб падыходах Беларусі да стварэння новай архітэктуры еўрапейскай бяспекі і аб пазіцыі нашай краіны адносна супрацоўніцтва з НАТО кіраўнікоў дыпламатычных місій замежных дзяржаў, акрэдытаваных у Мінску, праінфармаваў міністр замежных спраў рэспублікі Іван Антановіч.

Іван Антановіч адзначыў, што Рэспубліка Беларусь па-ранейшаму лічыць прасоўванне НАТО на Усход памылковым рашэннем, бо гэта можа садзейнічаць паяўленню новых раздзяляльных ліній і выклікаць новыя праблемы ў галіне забеспячэння агульнаеўрапейскай бяспекі. У той жа час Беларусь вітае эвалюцыю ў падыходах НАТО адносна прасоўвання і размяшчэння ядзернай зброі і істотных кантынгентаў замежных войскаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. З улікам гэтых фактараў Беларусь выпрацавала ўнесці свой уклад у змякчэнне вынікаў пашырэння НАТО: прапанаваны канструктыўны палітычны дыялог з альянсам, у рамках якога на стабільнай і доўгатэрміновай аснове маглі б быць развязаны вузлы ўзаемнай заклапочанасці.

КІНАПАРТРЭТ

### ПЁТР МАШЭРАЎ

У наступным годзе споўніцца 80 гадоў з дня нараджэння Пятра Машэрава. Гэтай даце прысвяціў сваю работу творчы калектыў дакументальнай стужкі "Пётр Машэраў. Прызнанне", створанай на кінастудыі "Беларусьфільм". Прэзентацыя яе адбылася 20 мая ў сярэдняй школе № 137 імя Пятра Машэрава.

Вуснамі людзей, якія ведалі галоўнага героя фільма пры жыцці, расказваецца аб яго асабістым лёсе, дзейнасці на пасадзе кіраўніка дзяржавы, што дапамагло аднавіць партрэт гэтага выдатнага чалавека ва ўсёй яго паўнаце. Дапаўненнем да ўбачанага на экране сталі выступленні родных і блізкіх Пятра Міронавіча, а таксама сцэнарыста і рэжысёра фільма Юрыя Лысятава.

ПЕРАСЯДЗЕМ НА «МАНЫ»



На аўтобусных маршрутах Гомеля хутка з'явяцца закупленыя ў Германіі двухпавярховыя "МАНы" — пакуль толькі два. Столькі ж нямецкіх аўтобусаў плануецца набыць яшчэ, бо гамяльчане страцілі надзею атрымліваць у далейшым венгерскія "Ікарусы", якія бегаюць па нашых дарогах яшчэ з савецкіх часоў.

## СУПРАЦОЎНІЦТВА

**У Мінску, у рэспубліканскай клінічнай бальніцы паталогіі слыху, голасу і мовы, прафесарам Вячаславам Быстрэніным сумесна з прафесарам з Германіі Э. Штайнбахам праведзена 11 унікальных аперацый па паляпшэнню слыху ў пастаянных пацыентаў клінікі з Мінска, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей, з якіх двое дзяцей. Унікальнасць аперацыі заключаецца ў тым, што хворым хірургічным шляхам былі ўкаранёны залатыя пратэзы — імплантанты сярэдняга вуха. А прывёз дарагія імплантанты з Германіі і падарыў клініцы гаспадар фірмы па вытворчасці пратэзаў з золата і плаціны Хайнц Курц з нямецкага горада Дуслінгена.**

**На базе клінікі быў праведзены сумесны рэспубліканскі семінар урачоў оталарынголагаў, у час якога спецыялісты маглі сачыць за ходам аперацыі і слухалі тлумачэнні абодвух прафесараў. Атрыманыя веды і ўбачаныя па манітору аперацыі спецыялісты з усіх куткоў рэспублікі змогуць прымяніць у сваёй практыцы.**

**— Мы спадзяемся, — гаворыць В. Гушча, — што наша супрацоўніцтва працягнецца, вядуцца перагаворы з панам Хайнцам Курцам аб далейшай пастаўцы ў нашу клініку імплантантаў для падобных аперацый.**

**Было прыемна, што, калі айчынную медыцыну значна часцей лаюць, чым хваляць, нямецкія калегі адзначылі бездакорную чысціню і акуратнасць, якая пануе ў клініцы, дагледжанасць палат, высокую тэхнічную аснашчанасць аперацыйных. У год у Мінскай клініцы паталогіі слыху, голасу і мовы праводзіцца каля трохсот аперацый і маленькім, і дарослым пацыентам. Многія з іх унікальныя і робяцца віртуознымі рукамі прафесара В. Быстрэніна і яго вучняў.**

**Святлана СІМАНАВА.**



**НА ЗДЫМКУ: у час аперацыі ў Мінскай клініцы паталогіі слыху, голасу і мовы.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

*РЫТУАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ*

# КОЛЬКІ КАШТУЕ ПАМЕРЦІ?

На працягу многіх дзесяцігоддзяў савецкія людзі былі ўраўнаваны не толькі ў жабрацкіх умовах жыцця, але і ў такіх жа ўбогіх умовах пасля смерці. Абабітая чырвоным паркалем труна, вянкі з васковымі кветкамі, нецвярозы аркестр, чырвоны слупок замест крыжа, пазней — шэры, як пражытае жыццё, помнік з мармуровай крошкі... Альтэрнатыва была толькі ў дырэктараў буйных гастраномаў і членаў партыі з сямнаццатага года.

Сёння сітуацыя змянілася, і кожны можа праводзіць у апошні шлях блізкага чалавека ў залежнасці ад яго пачуццяў да памерлага і стану кашалька. І дапамогуць яму цяпер у гэтай жалобнай справе не толькі ў вядомым спецкамбінаце сталіцы на вуліцы Альшэўскага. У дзяржавы з'явіліся канкурэнты.

Напачатку — крыху статыстыкі. У мінулым годзе ў Мінску было пахавана крыху больш за 12 тысяч чалавек, трэць ад гэтай колькасці былі крэміраваны. У дзень у горадзе адбываецца каля 30 пахаванняў, з іх прыкладна 10 — крэмацый.

Мы не будзем гаварыць, колькі ідзе на разнастайныя "левыя" выплаты, якія практычна непазбежна ўзнікаюць на дарозе пахавальнай працэсіі. Для пачатку паспрабуем разгледзець варыянт самых танных працэдур пахавання па-беларуску. Дастаўка нябожчыка на могілкі па дзяржаўных расцэнках будзе каштаваць крыху больш за 400 тысяч рублёў, капанне магілы абыдзецца ў 290 тысяч, аркестр — 630 тысяч, самая танная труна з габляванай пафарбаванай дошкі — 363 тысячы, але ўжо надта яна ўбогая. А тая самая, родная, абабітая чырвоным паркалем, яшчэ месяц назад каштавала каля 700 тысяч рублёў. Дадайце сюды вянкі — каля сотні тысяч кожны, непазбежны чырвоны слупок і памінкі, якія нават у самым сціплым варыянце могуць перакрыць па кошту ўсё астатняе. Калі ж сваякі нябожчыка вырашылі выкарыстаць паслугі крэматорыя, то сама крэмацыя каштуе 1 250 000, кошт труны ўказаны вышэй, сюды ж дадайце 400 000 за катафалк, тыя ж вянкі, кветкі, памінкі... Увогуле, як ні круці, а ў дзяржаўную дапамогу, якая сёння складае 1 500 000 рублёў, укласціся немагчыма. Большасць пахаванняў сёння абыходзяцца крыху даражэй. Для таго каб зразумець, як сёння ў Беларусі развіваецца сфера пахавальнага бізнесу, звернемся да вышэйпамянёных канкурэнтаў ранейшага манапаліста — спецкамбіната.

Магазін пахавальных прылад "Нівагаль" размяшчаецца на другім баку вуліцы Альшэўскага насупраць спецкамбіната, дэманструючы ідэю канкурэнтнай барацьбы паміж дзяржавай і прыватным прадпрымальнікам. Яго гаспадар Андрэй Бондараў пра тое, што ва ўсім свеце пахавальная справа лічыцца самым стабільным, надзейным і прыбытковым бізнесам, ведае, але лічыць, што Беларусь знаходзіцца недзе за межамі гэтага самага "ўсяго свету". У размове супрацоўнікі спецкамбіната і Бондараў называюць адзін аднаго — "на тым баку" і "на гэтым баку".

Было б зусім лагічна меркаваць, што самыя высокія цэны на труны і пахавальныя прылады варта шукаць у прыватным магазіне. Аднак самая дарагая труна коштам 50 мільёнаў рублёў прадавалася менавіта ў дзяржаўным спецкамбінаце. У магазіне насупраць дамавіны прыкладна такой жа якасці намнога танней. Зусім невялікі штат прыватнага прадпрыемства дазваляе знізіць цэны на прадукцыю аналагічнай якасці. Да таго ж, з фірмамі-вытворцамі тут працуюць напрамую. Увозіць шыкоўныя дамавіны ў Беларусь сёння нявыгадна, таму што падатак на іх устаноўлены такі ж, як, напрыклад, на мэблю і іншыя тавары народнага спажывання, нягледзячы на розніцу ў іх прызначэнні. Так што нават самыя дарагія дамавіны сёння робяць на месцы. Гэтым бізнесам заняты многія фірмы, а высокая якасць іх прадукцыі тлумачыцца тым, што вопытныя майстры старанна разабралі некалькі ўвезеных з-за мяжы імпартных дамавін, старанна іх абмералі і зрабілі лякалы, па якіх цяпер вырабляюць такія ж тут. Аднак асаблівым попытам яны не карыстаюцца, бо ў людзей проста няма грошай. Цэны на дамавіны пастаянна растуць у прамой залежнасці ад падаражання дошкі, электраэнергіі, тканіны, лаку і інш. На маё пытанне, колькі сёння можа каштаваць у Беларусі самае дарагое пахаванне, Андрэй Дзмітрыевіч заўважыў, што гэта справа вельмі індывідуальная і залежыць ад матэрыяльнага дастатку сям'і ці сяброў памерлага. Іншы раз для памінак заказваюць рэстаран, і тады па цане яны не саступаюць добраму вяселлю. Што тычыцца ўсё тых жа дамавін, то, па назіраннях тых, хто імі гандлюе, дарагія мадэлі набываюць у асноўным бандыты для сяброў, якім не пашанцавала, і багатыя прадпрыемствы ці фірмы для сваіх супрацоўнікаў. Яны ж праяўляюць цікавасць да "Кадылака" — катафалка, які прапаноўвае кліентам фірма "Нівагаль". Хаця, дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што кошт яго эксплуатацыі не вельмі высокі і залежыць ад адлегласці да могілак, на якіх адбудзецца пахаванне. Сярод дадатковых паслуг, што прадастаўляюцца "Нівагалем", выклік у любы час сутак бальзаміроўшчыка, прадастаўленне тэлефонаў фатографа. Аднак у Мінску пакуль не прыжыўся вопыт узаемадзеяння з моргамі, які апраўдаў сябе ва ўсім свеце, адкуль за плату ў пахавальныя фірмы паведамляюць аб пастаўпіўшых нябожчыках, не прынята выклікаць на дом агента, які ўзяў бы на сябе ўсе клопаты аб пахаванні. Што тычыцца заказаў па тэлефоне, то такая, прынятая ва ўсім свеце практыка, у нас абарочваецца крыміналам і інфарктамі: бывалі выпадкі, калі жартаўнікі заказвалі труну для жывога чалавека. Або: сядзіць чалавек на працы, а да яго ў кабінет уносяць вянок з яго імем на стужцы...

Аднак колькасць магазінаў пахавальных прылад расце, пашыраецца рынак паслуг у гэтай галіне, і сёння адзіны шлях развіцця дзейнасці ў сферы рытуальных паслуг — гэта стварэнне прыватных могілак з радавымі склепамі, сямейнымі пахаваннямі, калумбарыямі і царквой, дзе, як і належыць, будуць адпяваць памерлых, цэхаў па вытворчасці помнікаў і надмагільных пліт і г. д. Правільна арганізаваныя могілкі — гэта вытворчасць, што прыносіць вялікі прыбытак. Але каб яе пачаць, патрэбны грошы, прычым, вельмі вялікія. Гектар зямлі пад могілкі, па словах Андрэя Бондарава, у верасні—лістападзе мінулага года каштаваў мільярд рублёў. Яшчэ год назад можна было знайсці замежных інвестараў, гатовых укласці ў гэта свае сродкі, сёння ўкладваць грошы ў беларускі бізнес раўназначна іх пахаванню. Ды і пра якое развіццё можна гаварыць, калі нават зямлю, на якой стаіць капітальна пабудаваны магазін, Бондараў мае права ўзяць у арэнду толькі на тры гады... Аднак на пахаванні клопаты і расходы, звязаныя са смерцю чалавека, не канчаюцца. Наступны этап — устаноўка помніка.

У былыя часы ў большасці зноў жа выбар быў невялікі — смуткуючая маці з вярбой ці шэры "ветразь" з мармуровай крошкі. Прычым, нават на гэтыя немудрагелістыя знакі памяці чарга была распісана на многа гадоў наперад. Сёння карціна іншая: фірмы, што вырабляюць помнікі, вядуць сапраўднае паляванне на кліентаў.

У фірме "Олдрын", што займаецца вырабам помнікаў ужо другі год, стаіць амерыканскае абсталяванне, якое дазваляе працаваць па арыгінальнай новай тэхналогіі. На камп'ютэры набіраюцца шрыфты, малюнкі, розная сімволіка, якія потым пры дапамозе асобай гумы наносяцца на камень. За адзін дзень выконваецца 10—15 заказаў. Можна, зрабіўшы заказ раніцай, забраць яго вечарам. І яшчэ важная дэталь: калі пры ручной вытворчасці кошт работы рэзчыка складаў трэць ад агульнага кошту помніка, то тут ён складае 10—20 працэнтаў ад кошту, што дазваляе значна знізіць цану. Увогуле ж, цана помніка напрамую залежыць ад кошту каменя, з якога ён выраблены.

Сёння камяні ў Беларусь прывозяцца, як правіла, з Расіі і Украіны. З Урала сюды вязуць граніт, з-пад Чэлябінска — мармур, цэніцца прыладажскі чырвоны камень, які цяпер выкарыстоўваецца ў Маскве для abліцоўкі храма Хрыста Збавіцеля. Попытам карыстаецца габро, што здабываем на Украіне, а таксама токаўскі камень і чырвоны капусцянскі камень. Не так даўно Украіна падняла таможныя пошліны на ўвоз сыравіны, што, адпаведна, узняло цану на помнікі. Сёння кошт правозу плюс таможныя расходы іншы раз перавышаюць кошт самога каменя. І вязуць камень з усіх куткоў неабсяжнага СНД, як быццам няма ў Беларусі буйнога радовішча граніту, размешчанага ў Мікашэвічах. Здавалася б, свая сыравіна — ні табе таможных збораў, ні расходаў на дарогу ад Урала да Мінска... Але кар'ер у Мікашэвічах у асноўным вырабляе шчэбень, які здабываецца там узрыўным спосабам, а граніт у Беларусь завозіцца з Урала.

Увогуле ж, праблема сыравіны можа вырашацца досыць нечакана: у двары фірмы, дзе складзены ўзоры помнікаў, у вочы кінуўся надзіва прыгожы чорны камень з зеленаватымі пражылкамі. У адказ на маё пытанне — адкуль такая прыгажосць? — усе дружна рассмяяліся. Аказалася, што гэта быў выдатна адпаліраваны родны беларускі валун... Што тычыцца кошту гатовых помнікаў, то, па словах супрацоўнікаў "Олдрына", "сярэдні, каб не сорамна было паставіць", каштуе каля 10—11 мільёнаў рублёў. Самыя танныя помнікі з мармуровай крошкі каштуюць 1 700 000 — 2 000 000. За 4—5 мільёнаў можна набыць вельмі прыстойны гранітны помнік. Самы дарагі з прададзеных тут помнікаў каштаваў 25 мільёнаў. Аднак, па словах прэзідэнта фірмы Уладзіміра Дашкевіча, помнікаў сапраўднага еўрапейскага ўзроўню ў нас пакуль не робяць.

І яшчэ адзін артыкул расходаў на могілках, які, бадай, адрознівае айчынныя могілкі ад могілак усяго астатняга свету, — гэта нязменныя агароджы вакол магіл. Як быццам мы, жабракі і беззямельныя, хаця б пасля смерці хочам замацаваць за сабою гэтую малую прастору ўласнай зямлі. А можа быць, гэта падсвядомае імкненне абараніцца ад магчымага варварства? Як бы там ні было, сёння зварная агароджа для адной магілы каштуе 1 900 000 рублёў, для дзвюх — 2 650 000.

Заканчваючы артыкул, хочацца адзначыць, што, вядома ж, вышэйпералічанае — далёка не ўсе расходы, звязаныя са смерцю чалавека. Але нават гэтага зусім дастаткова, каб пажадаць усім доўгага і шчаслівага жыцця. Што тычыцца развіцця пахавальнага бізнесу ў Беларусі, то ёсць усе падставы меркаваць, што ён можа падзяліць лёс сваіх кліентаў...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

НОВАЕ ВЫДАННЕ Ў БЕЛАСТОКУ

# ПРА ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Ян Чыквін — вядомы беларускі паэт, які жыве і працуе ў Польшчы. Шмат піша, часта друкуецца. Аўтар паэтычных зборнікаў "Іду" (1969), "Святая студня" (1970), "Неспакой" (1977), "Светлы міг" (1989), "Кругавая чара" (1992) і іншых. Але Ян Чыквін не толькі цікавы, самабытны паэт, ён добры крытык і літаратуразнавец. Я пераканаўся ў гэтым, калі прачытаў яго новую кнігу "Далёкія і блізкія", якая нядаўна пабачыла свет у Беластоку. Аўтар у ёй расказвае пра беларускіх пісьменнікаў замежжа.

Думка напісаць такую кнігу з'явілася ў Яна Чыквіна яшчэ гадоў дзесяць назад, калі яму пашчасцілівася наведаць і папрацаваць у беларускай бібліятэцы ў Лондане. Пра беларускіх пісьменнікаў замежжа тады мала хто ведаў у Польшчы, а тым больш у БССР. Пачаліся пошукі матэрыялаў, сувязі з эміграцыяй, актывізавала сваю дзейнасць беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа", якое ён узначальвае, ды й у Беларусі сталі афіцыйна прызнаваць і цаніць тое, што выдавалася ў Польшчы, Германіі, Канадзе, ЗША і іншых краінах свету. Я маю на ўвазе ўсё беларускае і пра Беларусь. Сам аўтар у сваёй прадмове да кнігі адзначае, што "ў працы не ставіліся задачы ўсебаковага ахопу і аналізу творчасці ўсіх беларускіх пісьменнікаў замежжа. Асноўнай мэтай бачылася найперш асэнсаванне творчай індывідуальнасці тых майстроў прыгожага пісьменства, хто сваімі творамі, асаджанымі ў агульнаеўрапейскім літаратурным, культурным і філасофскім кантэксце, выразна выказвае сваё адметнае слова. Тых майстроў, чые творы не зліваюцца з традыцыяй масавага ўжытку..." Дык хто ж, на думку Яна Чыквіна, выразна выказвае ці выказаў і сказаў сваё адметнае слова ў беларускай літаратуры? Да такіх майстроў аўтар адносіць (і з ім можна пагадзіцца) далёкіх пісьменнікаў Масея Сяднёва, Наталлю Арсенневу, Янку Юхнаўца, Кастуся Акулу і блізкіх паэтаў і празаікаў Надзею Артымовіч, Сакрата Яновіча, Міхася Шаховіча, Уладзіміра Гайдука, Яшу Бурша, Ларысу і Юрку Геніюшаў. Калі з творчасцю і дзейнасцю гэтых далёкіх і блізкіх пісьменнікаў многія нашы чытачы знаёмыя, то прозвішчы Яшы Бурша і Уладзіміра Гайдука вядомыя толькі ў асяродку творчай інтэлігенцыі. А Яша Бурш, напрыклад, цудоўны паэт і арыгінальны мастак. Нарадзіўся ён у Баранавічах у 1929 годзе, а пасля вайны з бацькамі выехаў у Польшчу. Пасля заканчэння Варшаўскай акадэміі мастацтва працуе настаўнікам. У 1964 годзе ў Беластоку выйшаў з друку ягоны адзіны пакуль зборнік вершаў "Прамень думкі". Ян Чыквін захапляецца паэзіяй Яшы Бурша (сапраўднае прозвішча Анісіровіч). У свой час Яша Бурш адышоў ад традыцыйнага, сілабатанічнага вершаскладання. Гэта было, як піша Ян Чыквін, "абумоўлена найперш ягоным скразным, мастацка-жывапісным бачаннем свету, да таго ж падмацаваным некаторымі філасофскімі перадумовамі экзістэнцыялізму, якім зачытваліся ў Польшчы ў пяцідзесятых — шасцідзесятых гадах усе інтэлектуалы і творчыя людзі". Аднак ягоную паэзію многія не разумелі, бо творчая арыентацыя паэта тады выходзіла, відаць, з польскай літаратурнай традыцыі, з яе авангарда. І хоць Яша Бурш адышоў ад літаратуры, рэха яго свабодных вершаў аддаецца ў творчасці беларускіх паэтаў Польшчы Надзеі Артымовіч, таго ж Яна Чыквіна, Зосі Сачко, Міхася Шахановіча, Міры Лукшы, Віктара Стахвюка, Веранікі Леанюк, Валі Аніщчук і іншых.

Што датычыць шчырага паэта і чалавека Уладзіміра Гайдука, які жыве на хутары Тарнопаль ля Гайнаўкі, дык аўтар кнігі "Далёкія і блізкія" адзначае, што "ягоныя вершы, выдадзеныя ў двух зборніках "Ракіта" (1971 г.) і "Блакітны вырай" (1990 г.), прасякнуты пачуццём смутку, журбы, ціхай радасці. Прычым творы паэта ніякім чынам не дэманстратыўныя, не дэкларатыўныя, не гамлетаўскія і не катастрафічныя".

Раздзелы пра Ларысу Геніюш і яе сына Юрку Геніюша надрукаваны ў кнізе адзін за адным. Раздзел пра паэтку аўтар кнігі назваў "Зэльвенская непаслушніца". У чым аўтар бачыць гэтую непаслушнасць? Найперш у яе любові да Беларусі. Вярнуўшыся са сталінскіх лагераў у Зэльву, Ларыса Геніюш не прыняла савецкага грамадзянства, а ўсё жыццё лічыла сябе грамадзянкай Беларускай Народнай Рэспублікі. Пачынаючы з 1956 года, яна і была зэльвенскай непаслушніцай.

Прачытаўшы кнігу Яна Чыквіна, я больш даведаўся пра Юрку Геніюша як асобу, як чалавека. Аўтар добра ведаў яго, падкрэсліваючы пры гэтым, што Юрка Геніюш быў "чалавекам надзвычай таварыскім, кантактным, энергічным, дасціпным, жыццярадасным". Гэта так. Але Юрка Геніюш быў яшчэ і найперш таленавітым літаратарам. Яго пяром напісаліся творы, якія ўвайшлі ў кнігу "Зборнік сцэнічных твораў" (разам з С. Яновічам), "Напачатку было слова", "Да свету" (у кнізе "Маці і сын") і "З маёй званіцы". Творчасць Юркі Геніюша, на жаль, яшчэ мала ацэнена і ў Польшчы, і ў Беларусі.

Шмат старонак у новай кнізе Яна Чыквіна адведзена штрыхам да творчай біяграфіі аднаго з найталенавіцейшых беларускіх творцаў у Польшчы Сакрата Яновіча. Даследчык разважае над апавесцю "Самасей", якая, на яго думку, канцэнтруе ў сабе найбольш вартасныя рысы прозы Сакрата Яновіча.

У кнігу "Далёкія і блізкія" Ян Чыквін уключыў і артыкул Уладзіміра Конана "Быццё і час у люстэрку паэзіі". Гэта нататкі пра творчасць Яна Чыквіна. Дарэчы, яны ўпершыню былі апублікаваны ў 1993 годзе ў газеце "Голас Радзімы".

Адзінаццаць артыкулаў пра далёкіх і блізкіх беларускіх пісьменнікаў плюс нататкі Уладзіміра Конана і склалі добрую кнігу Яна Чыквіна. Хочацца верыць, што гэта толькі пачатак такой задумы. Спадзяюся, што праца́ будзе і напішацца яшчэ і пра Віктара Шведа, Алеся Барскага, Міколу Гайдука, Юрку Зубрыцкага, Міру Лукшу, Алега Латышонка, Яна Максімюка, а таксама і пра тых, хто жыве яшчэ далей ад Беларусі і Беласточчыны.

Сяргей ЧЫГРЫН.

СПАДЧЫНА







# СТАРЫ «МЛЫН»



Млынарства — адзін з самых старажытных заняткаў чалавека. Яшчэ Пліній пісаў, што размолу зерня людзей навучыла багіня земляробства Цэрэра. У славянскай міфалогіі млыны заўсёды лічыліся месцам, дзе жыве нячыстая сіла, а млынару надаваўся вобраз чараўніка.

На Беларусі млынарства было развіта шырока. Са старажытных часоў тут існавалі ўсе вядомыя тыпы млыноў: ветракі, вадзяныя, паравыя, якіх захавалася вельмі мала. Сярод нешматлікіх млыноў, будынкі якіх захаваліся да нашых дзён, ёсць і будынак былога гарадскога млына ў Оршы, які стаіць на штучна створаным канале, што злучае Аршыцу і Днепр. Пра існаванне ў Оршы гарадскога млына на рацэ Аршыца побач з замкам вядома яшчэ з "Інвентара" 1660 года.

У 1902 годзе на тым жа месцы замест драўлянага быў пабудаваны новы гарадскі цагляны млын, будынак якога стаіць і сёння. Млын меў вадзяны рухавік у 50 конскіх сіл. Тут працавала 10 чалавек, і тады гэта быў адзін з самых буйных млыноў у Магілёўскай губерні.

У 1910 годзе гаспадаром аршанскага млына стаў памешчык Макражанскі, які паставіў там яшчэ і невялікі паравы рухавік. У 20-я гады замест паравога і вадзянога рухавікоў тут былі ўстаноўлены электрычныя, але пасля будаўніцтва ў Оршы новага млынкамбіната ў 1960 годзе млын спыніў сваю работу.

Нягледзячы на тое, што будынку млына ў 1992 годзе споўнілася сто год, ён захаваўся ў даволі добрым стане. У 1991-м годзе будынак старога млына быў перададзены аддзелу культуры пад музей этнаграфіі. Пачалася рэстаўрацыя. Цяпер музей дапамагае захаванню і вывучэнню матэрыяльнай і духоўнай культуры Аршаншчыны канца XIX — пачатку XX стагоддзяў.

Да матэрыяльнай культуры належаць рэчы штодзённага побыту, традыцыйныя вырабы і прылады працы народных майстроў і рамеснікаў. Гэтыя прадметы ў наш час не маюць шырокага практычнага выкарыстання, таму хутка разбураюцца, знікаюць з ужытку.

Усе экспанаты музея — не муляжы, не спецыяльна выраблены для экскурсій рэчы, а сапраўдныя, аўтэнтычныя рэчы і прылады, якія вырабляліся сялянамі для штодзённага ўжытку і нашэння, сапраўднае народнае адзенне. Яго выраблялі нашы продкі (многіх з якіх ужо даўно няма ў жывых) паводле той традыцыі, калі яшчэ не ведалі фабрычнага, калі яшчэ апраналіся гэтаксама, як і сто, і дзвесце гадоў таму, і гэтая традыцыя перадавалася з пакалення ў пакаленне і жыла тысячагоддзямі. Цяпер гэтыя ўзоры беларускага народнага адзення Аршаншчыны можна пабачыць толькі ў этнаграфічных музеях. "Млын" — адзін з іх.

Экспазіцыя музея размясцілася на двух паверхах вадзяного млына. Тут прадстаўлены асноўныя вырабы народных майстроў Аршаншчыны: прылады земляробства, прадметы побыту з дрэва, гліны, гліняныя цацкі, плеценыя рэчы, тканыя вырабы — ад найбольш простага льнянога палатна да посцілак і ручнікоў з багатым і разнастайным аздабленнем.

Экспедыцыі па вёсках былога Аршанскага павета далі магчымасць знайсці шмат цікавых экспанатаў, якія і складаюць аснову экспазіцыі музея.

**НА ЗДЫМКАХ:** этнаграфічны музей "Млын" і яго экспанаты.

Фота Віктара СТАВЕРА.

*НАМ ПІШУЦЬ*

# IV «БРАСЛАЎСКІЯ ЧЫТАННІ»

У Браславе адбыліся IV "Браслаўскія чытанні", якія арганізавалі Браслаўскае музейнае аб'яднанне і Браслаўскае краязнаўчае таварыства.

На "Браслаўскія чытанні" прыехалі навукоўцы і краязнаўцы з Беларусі, Польшчы, Літвы, Латвіі, якія вывучаюць гістарычныя, культурныя і экалагічныя пытанні Браслаўшчыны. Многа было цікавых выступленняў навукоўцаў з Мінска: Міхаіл Спірыдонаў "Браслаўшчына: хроніка XVI ст.", Людміла Дучыц "Варагі на Браслаўшчыне", Валянцін Рабцэвіч "Манетныя скарбы Браслаўшчыны", Аляксандр Егарэйчанка "Гарадзішча і селішча Зазоны", Людміла Іванова "Рэфармацыйныя зборы на Браслаўшчыне" (другая палова XVI — першая палова XVII стагоддзяў), Наталля Юргенсон "Асаблівасці развіцця турысцка-рэкрэацыйнай дзейнасці на тэрыторыі Нацыянальнага парку "Браслаўскія азёры", Вольга Лабачэўская "Ручнік — элемент матэрыяльнай і сакральнай культуры старавераў Браслаўшчыны", Сяргей Коблаў "Падводныя даследаванні Іказненскага замка", Іна Алексніна "Стан тэатральнай культуры Браслаўшчыны ў 20-я—30-я гады" і іншыя.

З цікавасцю былі праслуханы выступленні навукоўцаў з іншых гарадоў Беларусі: Генадзь Семянчук (Гродна) "Раннефеадальны горад Дрысвяты", Уладзімір Лобач (Полацк) "Браслаўская судовая справа 1615 года: да характарыстыкі чарадзейства ў сярэдневечнай Беларусі".

Назавём некаторыя выступленні гасцей з Польшчы: Івона Хадароўска (Варшава) "Пахавальная абраднасць насельніцтва Відзаў і наваколля", Дарота Гал (Варшава) "Рэлігійная культура ў Відзах" і іншыя.

Дырэктар Каўнаскага архіва Юозас Рымкус пазнаёміў з крыніцамі па гісторыі Браслава ў фондах Каўнаскага павятовага архіва. Сяргей Харэўскі (Вільня) — "Нацыянал-рамантызм у архітэктуры 10-х—20-х гадоў XX стагоддзя (паводле матэрыялаў Браслаўшчыны)". Госць з Даўгаўпілса (Латвія) Мікалай Паўловіч пазнаёміў з развіццём Беларускага адраджэнскага руху ў Латвіі.

Са змястоўнымі дакладамі выступілі таксама мясцовыя краязнаўцы: Кастусь Шыдлоўскі (Браслаў) "Інвентар Опсаўскага староства 1779 года як каштоўная крыніца гісторыі Браслаўшчыны", Леанід Дзікцяроў (Відзы) "Развіваючыя і пазнавальныя задачы па гісторыі", Галіна Падалян (Браслаў) "Канцэпцыя развіцця Браслаўскага музейнага аб'яднання", Аляксандр Панцялейка (Браслаў) "Першая спроба рэгуляцыі Браслаўскай азёрнай сістэмы", Іван Касьяненка (Браслаў) "Роля Нацыянальнага парку ў захаванні біялагічнай разнастайнасці прыроды Браслаўшчыны", Язэп Бунто (Глыбокае) "Да пытання аб пабудове чыгункі Варапаева — Друя", Вітаўт Ермалёнак (Мёры) "Аўгуст Адлер з Друі і яго выданні", Іосіф Зямчонак (Варапаева) "Паставы эпохі Тызенгаўза", Ада Райчонак (Германавічы) "Параўнальная характарыстыка творчасці Язэпа Драздовіча і Пётры Сергіевіча", Кліменцій Кожан (Германавічы) "Беларусы ў Латвіі". Усяго было прачытана больш за 40 дакладаў.

Удзельнікі "Браслаўскіх чытанняў" наведалі гісторыка-краязнаўчы музей, пабывалі на экскурсіях па горадзе Браславе, на адкрыцці выставы "Беларускі ручнік", наведалі мястэчка Слабодка і яго маляўнічае наваколле.

У заключэнне на базе адпачынку адбылася сяброўская вечарына, на якой было выказана многа добрых слоў у адрас арганізатараў "Браслаўскіх чытанняў", гаварылася аб дружбе і супрацоўніцтве народаў Беларусі, Польшчы, Літвы, Латвіі.

Новая сустрэча навукоўцаў і краязнаўцаў у Браславе адбудзецца ў 2000 годзе.

**Кліменцій КОЖАН.**
Шаркоўшчынскі раён.

---

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

# «ЛАЛІТА...» Ў ТРОХ ВЫМЯРЭННЯХ

Гэта справядліва не толькі для тых кніг, над аздобаю якіх дбайна — з душою! — папрацавалі і мастакі, і паліграфісты, але і для тых, на стварэнне якіх не хапіла таленту (у адных — напісаць яе, у другіх — па-майстэрску яе аформіць): суадносіны формы і зместу ў кніжнай прадукцыі — класічны прыклад адпаведнасці аднаго другому.

Вось і гэту кнігу — калі прыгадаць нашы развяжанні пра яе душу, — я трымаў у руках не тое каб з насцярогай ці недаверам — мне вельмі хацелася і пагартаць яе, і пачытаць, — але разам з тым я чамусьці баяўся безаглядна даверыцца ёй: штосьці прэтэнцыёзнае бачылася мне не толькі ў назве ("Лаліта і кактус") — надта ж дзіўным пачувалася ці то залішне смелае, ці то цалкам беспадстаўнае суседства (і нават злучэнне ў адно цэлае) усім вядомага і бясспрэчна ўстойлівага вобраза набокаўскай гераіні з не надта сімпатычнай (па нашых эўрапейскіх мерках) заморскай раслінай (дадамо: зусім нехарактэрнай для беларускай флоры), — а таксам ў тым, які шрыфт выбрала для назвы мастак Наталля Салаўёва. Усё на вокладцы добра: і малюнкі, і прозвішча аўтара — Уладзімір Клімовіч, — а вось назва... Неяк не мог я згадзіцца з такім шрыфтам, трошкі пукатым, з нейкім незразумелым нахілам асобных элементаў літар у неўласцівы для славянскіх шрыфтоў бок — вока не бегла злева направа, лёгка прачытваючы назву, а нібыта спатыкалася на кожнай літары, якая адпіхвала вока назад, прымушаючы пераадольваць кожную з іх паасобку.

З аднаго боку, я разумеў задуму мастака, якая такім чынам хацела спыніць нашу ўвагу менавіта на назве, але з другога, — гэта мяне не задавальняла: шрыфт павінен заахвочваць да чытання, а тут ён, наадварот, адштурхваў.

І таму я пачаў чытаць кнігу не з першай старонкі, як гэта звычайна робіцца, а з сярэдзіны — якраз з таго апавядання, якое і дало назву кнізе, — з "Лаліты і кактуса". Чаму я так зрабіў? Апроч вышэйпамянёнай прычыны была яшчэ адна, напэўна, больш важная, чым усе астатнія: калі аўтар назваў кніжку так, як называецца адно з апавяданняў зборніка, то, верагодней за ўсё, ён хацеў гэтым нешта падкрэсліць — відаць, самае галоўнае з таго, што збіраўся сказаць. І чым хутчэй я разгадаю таямніцу кнігі, тым хутчэй пазбаўлюся адчування дыскамфорту, выкліканага яе знешнім выглядам.

Лаліта і кактус... Банальная, як свет, гісторыя... пра Лаліту (хто яна — тлумачыць не трэба, бо гэта выдатна растлумачыў Набокаў)... і пра тое, чаго нельга пакратаць рукамі — не, не расліну, не кактус! — калючкі ўрэшце можна і абламаць, — а пра душу — той самай Лаліты — маленькай беларусачкі, якая нават не ўсведамляе сябе беларускай, бо яшчэ не дарасла да гэтага — дарасла толькі да мары пра Парыж, пра Францыю... гэткая сучасная маленькая беларусачка, якую і па паводзінах, ды мо і проста так завуць Лалітаю, бо яна нічога не ўмее апроч гэтага... пра яе душу, падобную да бутона, які не паспеў яшчэ парадаваць нас сваімі пялёсткамі...

І разам з тым — не толькі пра яе душу. Разам з тым — пра душу аўтара, які прыкмеціў гэту Лаліту на нейкай вуліцы ці ў падземным пераходзе, — колькі іх, гэткіх Лаліт, трапляе на наша вока, але не кожная з іх трапляе на старонкі кнігі, робячыся гераіняй твора. Такой гераіняй, якую мы ўжо ніколі не забудзем, бо аўтар дасягнуў амаль немагчымага — ажывіў жывога чалавека, якому было ўсё роўна, жыць або не жыць...

Ды і расказаў нам не столькі пра яе, колькі пра сябе — пра сваю душу, — вуснамі ці ўчынкамі гераіні (хоць ён і абвяргае гэта ў прадмове да кнігі) сказаў тое, што не асмельваўся сказаць услых — пэўна, асцерагаўся, каб яго не палічылі "белай варонай" — за наіўнасць і чысціню, якія ён вымушаны хаваць ад усіх, бо гэта зараз "не модна" — пераацэнка каштоўнасцяў у сучасным грамадстве дэвальвіравала не толькі грошы, але і такую, здавалася б, непарушную каштоўнасць, як душа чалавека (і пісьменнік, як ніхто іншы, адчувае гэта вастрэй, да таго ж — на сваёй асабістай шкуры!). Але з Клімовічам гэткай перамены не адбылося: ён застаўся і жадае застацца тым, кім і быў да гэтай славутай (але бясслаўнай) дэвальвацыі — шчырым і чулым чалавекам, — бо без гэтага — чысціні і шчырасці — не пражыць! Не толькі яму — аўтару, але і нам — чытачам.

І калі я дачытаў апошнія радкі гэтага невялічкага апавядання (мінінавелы ці амаль прытчы), мая першапачатковая насцярога імгненна знікла: перада мной быў не вораг, які нагрувашчваннем неверагодных жахаў ці сатанінскіх фантазій хоча пазбавіць мяне волі, а сябра, да неверагоднасці наіўны і чысты. І я ад душы пазайздросціў ягонай наіўнасці і пашкадаваў, што сам, напэўна, ужо не здольны на гэткае: узрост не спрыяе паспяховай культывацыі гэтай якасці, вынішчаючы яе гарачым жалезам цвярозага жыццёвага вопыту і аддаляючы нас тым самым на ўсё большую адлегласць ад крынічна-эталоннай чысціні, уласцівай, напэўна, толькі маладосці.

Бутон кнігі раскрыўся, таямніца знікла, але ж засталася цэлая кніга, цалкам яшчэ не прачытаная. І тады я вярнуўся да пачатку і пазнаёміўся яшчэ з адным Клімовічам — трошкі эпікам, трошкі бытаапісальнікам, трошкі этнографам. Ратавала пісьменніка толькі мова — дакладная і беззаганная — з пункту гледжання яе чысціні і беларускасці — дай Бог кожнаму, хто піша, такую зайздросьлівую культуру мовы!

Апавяданні былі розныя і пра рознае: пра тое, як гуляюць вяселле на Беларусі, пра тое, якіх дзівакоў (ці мо няўдачнікаў) можна пабачыць у вёсцы ды і ў горадзе таксама, пра тое, як малады аўтар спрабуе злавіць няўлоўную ніцінку вобраза будучага героя будучага апавядання, — карацей, амаль стэрэатыпны набор сюжэтаў і тэм, характэрны для тых, хто толькі пачынае ўваходзіць або толькі ўвайшоў у літаратуру. Але за гэтай стэрэатыпнасцю стаяла і нешта іншае: жаданне сказаць сваё слова, і гэта абумовіла выбар герояў, які падпарадкоўваўся нязменнаму правілу: пісаць толькі пра тых, хто не быў падобны да астатніх, хто выдзяляўся сваім няпростым лёсам, карані якога хаваліся ці то ў фізічных, ці то ў псіхічных адхіленнях ад нормы, але гэта яшчэ не быў сацыяльны дыягназ цалкам хворага ці недасканалага грамадства, якое і нарадзіла такіх людзей, як, напрыклад, Валет, Гуліс, Паўлюк...

І вось пасля гэткай этнаграфічна-сацыяльнай запеўкі мы натыкаемся нечакана на "Лаліту і кактус", на "Муху", на "Дрэва, Душ і Пёрка", але... Але, нібыта забыўшыся на ўсё дасягнутае і нібыта не маючы клопату распрацоўваць далей ужо знойдзенае, Уладзімір Клімовіч, як у вір, кідаецца раптам у абдымкі фантазіі і фантастыкі ("Сістэма Баслі", "Па-за шклом скафандра" і інш.). Наколькі паспяхова — асобнае пытанне. Асобнае таму, што фантастыка — кабета надта ж самалюбівая — не даруе здрады: або ты з ёю заўсёды — і тады яна адорыць цябе не толькі сапраўднымі знаходкамі, але і сапраўдным поспехам, — а лёгкі, хай і прыгожы сваёй лёгкасцю флірт не можа абяцаць аўтару таго ж самага.

Маючы на ўвазе гэту акалічнасць (ці мо гэткую асаблівасць фантастыкі), мы мусім з большай увагай паставіцца да трагедыі-прыпавесці "Беркуты", з якой многія пазнаёміліся яшчэ ў далёкім ужо 1992 годзе — і яшчэ ў самым першым — танюткім! — "Першацвеце". Ці пагадзіліся тады чытачы з філасофіяй, схаванай у прыпавесці, вызначыць, напэўна, немагчыма, але тое, што "Беркуты" былі значнай вяхой у творчасці пісьменніка, адмаўляць нельга.

І вось пасля таго, як мы пасябравалі з Клімовічам, неабыякавым да кактусаў, з Клімовічам, які добра ведае вёску і яе жыхароў, з Клімовічам-фантастам, у самым канцы кніжкі мы бачым яшчэ аднаго Клімовіча — ані не падобнага на сябе, правільней, на таго, якога мы ўжо ведаем. "Цені мыльных бурбалак" і "Блюз асенніх вятроў" — гэтыя два апавяданні вылучаюцца зусім іншым падыходам да таго, што мы прызвычаіліся называць апавяданнямі, і, з аднаго боку, гэта бясспрэчна радуе, бо адчуваецца, што аўтар хоча сказаць новае слова, а з другога — як ні прыкра гэта адзначаць, — трохі засмучае, бо — воленс-ноленс — узнікае адчуванне, што ты ўжо недзе чытаў гэткае (ці то ў Барыса Пятровіча, ці то яшчэ ў каго)... Магчыма, для некаторых чытачоў гэтыя апавяданні зробяцца сапраўдным адкрыццём (бо іх — менавіта гэткіх — не надта ўжо шмат і напісана), але мне хацелася б падкрэсліць найперш тое, што іх прысутнасць у кнізе — сведчанне таго, што пісьменнік не стаіць на месцы — шукае свой шлях, сваю мову, сваю тэму. А паўтарыцца — адзін раз! — гэта яшчэ не грэх, бо ўсе мы паўтараем таго ці іншага пісьменніка, часам без адпаведнага ўсведамлення, што ў прынцыпе заканамерна і вытлумачальна: у кожнага, хто пачынае, павінен быць настаўнік.

Я далёкі ад думкі, што Клімовіч свядома паўтарыў Барыса Пятровіча — тады можна было б зусім не гаварыць пра гэта: усё было б ясна, як белы дзень! Мне здаецца, што так магло атрымацца толькі з тае прычыны, што Клімовічу, напэўна, бліжэй творчая манера Барыса Пятровіча, чым якога іншага празаіка. Але тое, што зрабіў Уладзімір Клімовіч — не копія, не чысты паўтор. У Клімовіча — усё сваё: і вобразы, і тэмы, і падыход. І калі мы зірнем уважлівей, то ўбачым нітачку, якая цягнецца ад самых першых апавяданняў пісьменніка — ад "Валетавых радасцяў" і "Гуліса" — да "Мухі", да "Дрэва, Душа і Пёркі" і далей — да "Ценяў..." і "Блюза..." — яна скразная, гэта нітачка... І таму будзе зразумела, што такая манера пісьма — не падробка, а распрацоўка сваіх, даўно адшуканых тэм, даўно ўбачаных і створаных вобразаў. І ўсё, сказанае намі вышэй, — не папрок У. Клімовічу, а неабходная ў даным выпадку канстатацыя факта.

Атрымалася так, што на пару дзён кніжку ўзяў пачытаць мой сябра, а калі вярнуў (трошкі болей, чым праз пару дзён), то адбылося нечаканае: я гартаў яе і — што мяне надта здзівіла — ніяк не мог успомніць, пра што гаворыцца ў тых апавяданнях, якія я, дальбог, чытаў, — мо які тыдзень назад, — але яны чамусьці не згадваліся... (Не згадваліся так, як згадваеш знаёмую табе рэч па нейкай адной, нават выпадковай дэталі. Гэта тычылася апавяданняў, змешчаных у самым пачатку або ў самым канцы кнігі. І толькі "Лаліта і кактус" — якраз пасярэдзіне іх! — зззяла тым самым незвычайным святлом, як і пры першым яе прачытанні, і без усялякіх намаганняў з майго боку нагадвала пра тое, што зусім нядаўна я дакрануўся да чагось светлага і непаўторнага.

Жадаючы разабрацца ў гэтым феномене, я перачытаў "Лаліту..." і са здзіўленнем убачыў, што ў ёй, як у кроплі вады, прысутнічаюць усе тры іпастасі, усе тры адметнасці Уладзіміра Клімовіча, пазначаныя раней: і эпічнасць — у колькасці, дастатковай для таго, каб чытач здолеў яе адчуць і наталіцца гэтай нібыта мізэрнай колькасцю, і фантастыка (або фантастычнасць) — хіба кактусы валодаюць мовай?! — і характэрны для Клімовіча выбар герояў, лёс якіх склаўся не зусім так, як яны самі гэтага хацелі б, — карацей, усё, што ўбачылася пры самым першым знаёмстве з кнігаю. І — разам з тым (у "Лаліце...") — гэта новы Клімовіч — цікавы, запамінальны... Дык ці не той гэта шлях, які імкнецца адшукаць аўтар?

Інтуітыўна, дзякуючы таленту, закладзенаму ў яго прыродай, Клімовіч бліскуча вырашыў усе праблемы, якія стаялі перад ім як перад пісьменнікам, але — можа здарыцца і гэткае! — не здагадаўся яшчэ (або, лепш, не ўсвядоміў пакуль што), якім багаццем валодае, дзякуючы дарунку нябёсаў. Памажы яму Бог зірнуць на сябе не як на аднаго са шматлікіх літаратараў, якія навучыліся адно прыстаўляць літару да літары, — і на гэтым кропка! — а як на Творцу!

Кніжка сама сабой загарнулася, і я зноў убачыў вокладку. І зноў мяне насцярожылі вялікія, праведзеныя тонкім пяром літары назвы, праведзеныя не зусім так, як прызвычаіліся бачыць на вокладках: сам малюнак шрыфта нібыта зараней папярэджвае нас: не шукай у кнізе асалоды — у сэнсе звычных, прыдатных да ежы літаратурных ласункаў — інтрыгі, захапляючага сюжэта, а з нядаўняга часу дык і сексу, — не шукай усяго гэтага, бо кніга — зусім пра іншае: пра тое, як захаваць у сабе чалавечнасць.

І я зноў падзівіўся таленавітасці Наталлі Салаўёвай, якая афармляла кнігу Уладзіміра Клімовіча, падзівіўся незвычайнай глыбіні пранікнення ў душу аўтара, душу твора, душу кнігі. Мастачка не дадае ад сябе нічога — ды гэта і непатрэбна: яна фантастычна дакладна і фантастычна тонка выяўляе тое, што хаваў аўтар за пацеркамі слоў — сваю бездапаможнасць або свой бясспрэчны талент, — і пераказвае нам гэта сваёй мовай — мовай лініі, мовай лёгкага дотыку пяра да шурпатай, як жыццё, паперы, мовай пачуцця. І — самае галоўнае! — раскрываючы нам душу кнігі (душу аўтара), застаецца сама сабой — мастачкай Наталляй Салаўёвай.

Напэўна, толькі сціпласць, цалкам зразумелая чытачу, не дазволіла Уладзіміру Клімовічу сказаць у прадмове да кнігі трошкі больш цёплых слоў у адрас мастачкі, якая памагла нам лепей убачыць аўтара. Як чалавек староннi, а, значыцца, асоба незацікаўленая, я маю права, якое, спадзяюся, ніхто не будзе аспрэчваць, выказаць захапленне працаю Наталлі Салаўёвай не так стрымана і спадзяюся таксама, што аўтар "Лаліты і кактуса" безумоўна падтрымае мяне: яму сапраўды пашэнціла на мастака, а мастаку пашэнціла на кнігу. Будзем спадзявацца — не апошнюю.

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**

# ГРУК ХАДЫ АДЗІНОКАЙ ЗДАЛЁКУ ЧУВАЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

лавана пытаецца — у Айчыны, у жыцця, у долі, у дзяўчыны?! — "Як зрабілася, што пакахаў цябе я. — Хіба знаю я? Ды і нашто мне знаць?" — усё дабіваецца адказу ў прамінуласці і ў нас, ягоных наступнікаў: "Каму маліліся, чаго яны шукалі"... А горды Максім усё кліча: "Рушымся, брацця, хутчэй", усё марыць "ткаць залатыя паясы", што спавілі б "Краю мой родны Як выкляты Богам", усё верыць, што "брызнуць іскры з халодных каменняў".

"І ясны ён, як зорны сон", наш Багдановіч, — летуценны юнак, што здолеў наскрозь працяць цемрыва нябыту стромкай сцяблінай радка, пяшчотнага і грознага, задумнага і памкнёнага, "дзе чутны разам стогн і смех", што святліста пераляцеў мяжу ад жыцця да смерці над чужымі кіпарысамі, каб вярнуцца да Бацькаўшчыны вечным. Каб лёгка ўвайсці ў нашую параненую сапраўднасць: "Здароў будзь, зямляча!" і прамовіць ратавальна: "Усё знікае, праходзіць, як дым, Светлы ж след будзе вечна жывым". Каб стаць поруч з намі над чарнобыльскай хіжай прорвай, пад балючы пытальнік тысячагоддзя: "Браццяі Ці зможам грамадскае гора?! Браццяі Ці хваце нам сілы?!" Каб "радзімаму краю служыць" і адчуць нязмоўклым у Сусвеце сэрцам "зварушаны нарэшце дух народны", які "бясплодна не засне. А ўперад рынецца"... да "залацістага, яснага дня".

...Можа, і настаў ён ужо, залацісты, ясны дзень, у якім "Святыня лёгкаю ступою ў блакіце пракладае пуць", які "не разбіць, не спыніць, не стрымаць". А мы не адважваемся сказаць, як відушчы Багдановіч: "Ды што мне цемень вечнай ночы. Калісь глядзеў на сонца я". А мы ніяк не насмелімся давесці ўсяму свету і засмучанаму Багдановічу, што "ад усіх цяпер патомкі ёсць", ёсць і Страцімавы, узгаданыя радзімай і пажагнаныя мудрым небам. Мы ўсё скрушна пагаджаемся з Максімам: "...Ды няма адных — Страцімавых". Між тым, ні Купала, ні Багдановіч, ні Караткевіч ці Геніюш не шукалі і не чакалі ад нас, паслядоўнікаў, змірэнчасці альбо дагодлівасці, не хацелі збыцця сваіх прарочых горкіх думаў. Яны й цяпер, зтуль, з неўміручасці ўслухоўваюцца-ўзіраюцца: "Вы за кім у пагоню спяшыце? Дзе шляхі вашы йдуць і куды?". Яны й цяпер выпраўляюць: "У бязмерную даль вы ляціце, А за вамі, прад вамі — гады", змыкаючы ўсе эпохі і ўсе пакаленні ў бясконцасць-яснадзень, нагадваючы, варожачы, насылаючы: "Ты не згаснеш, ясная заранач-ка. Ты яшчэ асвеціш родны край".

"Але мы — не таго мы шукаем", не тых узвышаем, не тым давяраем лёсы, не да тых прыхінаемся ў маркоце, хто ўзапраўду абярожна расхрыстаў над намі і рукі, і душы, і галасы. Мы сталі забывацца, што калісь глядзелі на сонца, а значыць мелі вышыню, з якое недазвальна, недаравальна падаць. Мы налаўчыліся поўзаць навобмацкі ў цемры, каб не слепнуць ад сонца. Мы ніяк не дарасцем да мужнай адповедзі Багдановіча тым, хто з адзінокіх Страцімаў — вояў Духу рагоча, — "Калісь глядзеў на сонца я". А Максім адкрыў закон — хараства і праўдзівасці: пакуль умееш бачыць сонца, — аніякая драпежная цемрадзь цябе не адужае. Максім працерабіў вольную ўзлётную дарогу праз гушчары чалавечых звадаў і сваркаў, болю і роспачы — да зораў. Да сонца, якое прымае праснёных, абуджаных, "каб развеяліся хмары змрочных дум".

"Грук хады адзінокай здалёку чуваць" — гэта Максім ступае на брукаванку, што дзівам захавалася ў нашых мястэчках-гарадах кусманамі жывой старасветчыны. "Успамяні, маё сэрца, даўнейшыя дні!" — гэта Максім бачыць "вочы змучаных твараў" на крэўнай зямлі і спрабуе расхінуць заслону часу, каб даць нам спадзеву, даць падмогу ў скрутным адчаі. Гэта Максім — хворы змучаны чалавек, які не забіў, не счарніў у сабе сонца, які "не самотны" паміраў удалечы ад Краіны, асыпае-ўквечвае схаладнелы дол прыгаршчамі прамянёў-уваскрэшнікаў. Гэта Максім... Адзінотны шукальнік прабожай красы, упарты дойлід нашае несягнёнае дагэтуль дзяржаўнасці. Гэта Максім... — загадка Краю, што даў паэту першы ўсхліп і балючую ростань, дзе было ў паэта ўзрушлівае гасцяванне, ды не было гнязда, скуль прыплыла да яго, як містычны баладны Дунай, рака непаўторнае мовы, скурчанай цяпер пад злосным ботам адрачэнства. Гэта Максім, які сваёй адарванасцю-адзінокасцю, які сваім жалем "у белым доме ля сіняй бухты" сплаціў за нас наперад найстрашны грэх адчужэння — ад Бацькаўшчыны і адно ад другога, ад пачаткаў і слядоў. Потым, пасля Максіма, зляціць у чужыне надломна Купала, узляцеўшы над Краем папярэджаннем-перасцярогай ад адзіноты. Здавалася б, усю гаркоту чалавечай самотнасці і адзінокасці, чалавечай адказнасці за лёс народа паэты нашы выпілі нагбом, дашчэнту: навучалі нас еднасці, навучалі гармоніі. А мы ўсё разграбаем разгублена ссівелыя капцы, каб вынайсці ніты роду.

Адтуль, з тонкага свету Янкі і Максіма, з Космасу іхняй мужнай любові, што вынесла ўсе ростані-пакуты, глыбее ў сэрцы нашыя туга — туга па нязнойдзеным шчасці суполля, усенароднага, усялюдска-беларускага непарыўнага звязу — у гісторыі, у цяпершчыне, у наступнасці. І з тае нязбыўнае тугі прарастаюць крылы радзімнай паэзіі, што дорыць нам, занямоглым на ўродных палетках, узыходжанне да Страцім-лебедзяў, дакрананне да чыстае красы, вытканай з усмешкаў і слёзаў, са смугі і досвітнае беласці — з жыцця-багача. І адна толькі гэтая чыстая краса ратуе нас на Айчыне ад выгнання, згубы: "І няма ім каго тут пакінуць. Бо нікога на свеце не маюць. Усё ім роўна: ці жыць, ці загінуць"...

Але нам ёсць каго тут пакінуць пасля сябе, бо заўжды папераздзе нас ёсць Багдановіч, ёсць Купала і будуць папераздзе наступнікаў. Бо нягасна-прыцягальна свеціць зорка, люляная ў прывідных снах летуценнага Максіма. Бо стаяць мужнаю вартаю на нашых раздарожжах "абеліскі зямной прыгажосці" — нашыя думцы-паэты, сцвярджаючы сваёй ахоўнаю моцай, што "мы ўсе — адна радзіна", што "як ёсць у народа такія — не загіне давеку народ". Нам ёсць каму шчымліва прызнацца: "Тым шчаслівы, што свае дарогі я магу па зорках вызначаць". "Светла мне тут ад святла бяроз, радасна ад песень Багдановіча", "Столькі лета ў імені тваім". Нам ёсць перад кім укленчана вінаваціцца, адольваючы ачышчэнне: "За волю, за праўду, за матчыну мову прабач нам, Максіме, прабач", "Максім, не вяртайся з далёкае Ялты — цябе не пазнае тутэйшы народ", "Мы ў долі ўласнай у прыгоне. І хоць сцягі мяняе час, усё жыццё то мы ў пагоні, то нехта даганяе нас". Нам ёсць аб кім прасветлена і ўдзячліва шкадаваць, чэрпаючы са "здзіўленага блакіту" жыватворнасць паэтавай веры і любові: "Са струнамі ліры і струны душы парваліся", "Хараства больш не бачаць вочы", "Твае параненыя рукі пісалі боль маёй зямлі". Нам ёсць на каго азірнуцца і каго ўзнадзеена чакаць, бо "зліліся з радзімым блакітам ягоных вачэй васількі"! "бачыцца святлістым ранням Максімаў цень, Максімаў цень", таму што "паэт — на пульсе вечнасці". Таму што мы — толькі працяг, мы — зорны прасцяг думаў і мараў Багдановіча, таму што ён "глядзіць у вочы... вачамі зоркі Венеры", глядзіць пранізліва нам у сэрцы, таму што "сум-туга Максіма Багдановіча Лесуну ў сырым бары перадаецца" і лёсу ягонага "вышчарбленае святло чало старонцы абвіло вянком пакуты". Таму што Багдановіч і цяпер "Беларусь адраджае сабой", дасылаючы нам шэпт малітоўны, збавенчы: "Я лячу ў Беларусь то світаннем, то ўдзень", нагадваючы "пабуджаным" — "Вясна ідзе, Паэт, паслухай — яе не сцішыць, не стрымаць". Таму што "паэт не патрабуе доўга жыць", таму што "ў Багдановіча ёсць зорка Венера, а астатнія дасягалі нябёсаў толькі ў сне", таму што "ён навучыў, здаецца, гаварыць па-беларуску нават кіпарысы". Таму што "смерці ў паэта няма — ёсць нараджэнне". І няхай "бліжэй за спіною пагоня, ніжэй і ніжэй нада мною мячы", няхай "з душы праз горла кроў, з душы праз горла словы І ад жывых вачэй да зор сляпых святло" — "Старадаўняй Літоўскай Пагоні гул дратуе й ратуе мяне". Няхай "калі паміраюць паэты, што пры жыцці не гнуцца, у чалавецтва прасветы на ўсе вякі застаюцца", няхай "паўглядаліся здалёк і моўчкі разышліся жыцці... — а ўсё сінее васілёк у спелым беларускім жыце". А ўсё ж "свет, што пеніцца, пахне і звоніць", жывы, пакуль трымціць у прасторы і часе трапяткая паэтава душа, пакуль ёсць да каго звярнуцца: "Чуеш ты, як звоняць сосны ціха, як, палі вітаючы свае, недзе ўнучка слуцкае ткачыхі пра вясну, шчаслівая, пяе", пакуль ёсць каму даверыцца: "О, мова, я знайшоў цябе на Багдановічавай глебе". Пакуль ёсць каго прышэсна заклікаць: "Ты — усход! Яна твайго прыходу так даўно чакае, Беларусь".

...На ветаху веку свайго кароткага Багдановіч думаў пра Айчыну, якая выправіла яго ачуньваць, а сама паволі спаўзала ў бездань варажнечы, у змрок бязлітасных падзелаў і пераследаў. Багдановіч прымаў смерць, пэўна, у прадчуванні несправядлівых мукаў. Ягоны сыход стаўся паратункам, бо ён застаўся з намі непакалечаным, бо ягоны покліч да Любові, Духу, Мыслі, Працы і Мастацтва вядзе нас і цяпер у свет вялікае патаемнае даброты — у свет жыцця. І ягоная паэзія чараў і сноў, ажыўленая-ўваскрошаная ім мінуласць, ягонае пакланенне пекнаце і нясцерпны боль грамадскага гора, ягонае ўзорыстае кавальства верша і ягонае абагаўленне жанчыны-Мадонны — жывы Дух сучаснасці, што "працінае небыццё", яднаючы ўсіх і ўсё ў глыбінным Космасе ў Вялікую Існасць Красы. Ягоны шлях — далучэнне да Вышыні, да Шчасця, якімі поўніцца ўсяленскае бязмежжа, якія струменяць да кожнае жывое душы. На дарозе Багдановіча лёгка, насалодна дыхаць, з грунту Багдановіча вольна ўзрастаць да Максімавага неба, скуль "сіняй галоўкай ківае наш родны, забыты ў цяні васілёк". Пад покрывам Багдановіча, празрыстым і тонкім, выпешчваюцца гэткія тытаны-мысляры, як Уладзімір Караткевіч, і цёпла набрыньваюць пупышкі новае нацыянальнае літаратуры. І нашыя прышэсці ў зачараваную Краіну мастацтва бласлаўлёныя, ачоленыя Багдановічам, які адорвае нас правам горда вымавіць: "Іду я па тваіх слядах, вачмі тваімі гляджу на свет і бачу больш, чым у свеце ёсць. З вялікім плакаць лепш, чымсьці з малым смяяцца". На жаль, "геніямі не бываюць жывыя людзі, геній — прызванне нябожчыка", і веліч Максіма-кніжніка, і неадменнасць ягонага жыццёвага выроку паўсталі перад намі ўжо не пры ім: "Ды тым цяжэй ў краі чужым заўжды счыняць павекі й ведаць, што сюды не даляціць Зязюлі голас летам і песня беларуская ў жніво, і прыгадаць не раз, што мо і ў гэтым трагічнае схавана хараство". Прысланяемся мы цяпер да Багдановіча-магута, Багдановіча-волата, адчайна просячы: "Багдановіч, ратуй, ад знікнення ратуй, ад нямоты, Багдановіч, вартуй кожны крок наш і рух недарэчны", здзіўлена заклінаючы: "Хай загадка твая застанецца загадкаю вечнай", забыўшыся на тое, што быў Максім кволым, чуллівым чалавекам зусім несталага веку, які спалохана бачыў у знянацку разбітым люстэрку напамін-праяву блізкай смерці. Прамінулыя, як зіма застылая, 80 гадоў узвялі рамантычнага юнака на нябачны пастамент прарока і збаўцы, прад якім устрывожана-сурова мы прысаромліваем блудліўцаў: "Глядзі, беларус, каб не згінуць, глядзі у строгія чыстыя вочы Максіма"...

І мы не згінулі ў беспрасвецці — над намі ж і перад намі строгія чыстыя вочы Максіма, вакол нас даравальная і ўзвышальная, магутная энергія Максімавай любові і Максімава прыцягнення, якія ўсё ж паволі складаюць-лепяць з нас нацыю, грамаду, паяднаную гонарам і славай гісторыі. А гісторыя, ведама, — не толькі мінуўшчына. Гісторыя — гэта і нашыя словы, нашыя пошукі, нашыя сягненні ў заўтра, і нашае адчуванне слядоў, адбітых на айчынным гасцінцы продкамі. Гісторыя — гэта найперш здатнасць нашая пачуць спрадавён, з далёкіх абсягаў Сусвету Страцім-лебедзяў, што прыляталі нас узнесці да мудрае існасці Быцця. Гісторыя — нашае прабожае ўмельства бачыць красу і не парушаць, а ўскрыльваць яе над сабою ў сабе, да нябёсаў сваёй душы, да магічных нябёсаў зліцця-гармоніі ўсяго і ўсіх у жыцці на зямлі папярэднікаў. Бо толькі ж у гармоніі-ладзе выквечваевыяўляецца, запаўняючы любоўю свет, сапраўднасць, непадманнасць красы ратавальнай, красы ўваскрашальнай...

З гэткае — ачышчальнае — красы і выткалася кніга "У бязмежную даль" — кніга пра Максіма Багдановіча, падрыхтаваная да 105-й гадавіны з дня нараджэння Максіма выдавецтвам "Асар", сабраная-выкладзеная, нібыта з каштоўных абярожных каменьчыкаў, з прачуленых радкоў паэзіі, мацаванай Духам Багдановіча, неўтаймоўным гадавальнікам красы Сяргеем Панізьнікам. Кніга, якой апынулася пад сілу з Максімавай сцярожкай адзіноты выснаваць гістарычную лучнасць Творцаў — вандроўнікаў да трыдзевятага каралеўства зямное красы. Выплыў з пачатку стагоддзя і агарнуў нас усіх — былых і сённяшніх, забытых і невядомазаўтрашніх "Вянок" Максіма Багдановіча. А настрэчу яму, на шчасце лучання нібыта ў Купалле, памкнуўся ў часавых хвалях наш Вянок Паэту — звіты з прызнанняў у любові і разуменні Наталляй Арсенневай і Міколам Арочкам, Міколам Аўрамчыкам і Алесем Бадаком, Рыгорам Барадуліным і Данутай Бічэль-Загнетавай, Змітраком Бядулем і Генадзем Бураўкіным, Васілём Віткам і Артурам Вольскім, Навумам Гальпяровічам і Міколам Гілевічам, Анатолем Грачанікавым і Генрыхам Далідовічам, Уладзімірам Дубоўкам і Леанідам Драньма-Майсюком, Уладзімірам Жылкам і Сяргеем Законнікавым, Міколам Кавалеўскім і Міхасём Казаковым, Уладзімірам Караткевічам і Алесем Каско, Міхасём Курылам і Алесем Барскім, Паўлам Марціновічам і Нінай Мацяш, Людмілай Рублеўскай і Юрасём Свіркам, Янкам Сіпаковым і Міхасём Скоблам, Максімам Танкам і Сяргеем Сокалавым-Воюшам, Валянцінам Тарасам і Віктарам Шніпом, Яўгеніяй Янішчыц і беларуска-ўкраінскай паэткай Маяй Львовіч, Максімам Гарэцкім і Антонам Луцкевічам, складальнікам выданнявянка Сяргеем Панізьнікам і Міхасём Стральцовым, з якіх і спляла для Максіма свой сціплы вяночак-роздум, аздабляючы сваёй замілаванасцю Багдановічам ды ягонымі прыхільнікамі-чуйнікамі.

Але Брама ў свет Максіма Багдановіча, дзе гасцюе збуджаная золкам Беларусь, расчыніцца толькі тады, калі разгорне кожны сам кнігу, з якое гавораць Максімавы паплечнікі, не названыя мной, далучаныя да загадкі Максіма-кніжніка, спавядальнікі адзінае веры: "Дух паэта і прарока захавайце на Айчыне!" (Леанід Галубовіч). Паслухмяныя закону красы і святой запаведзі любові, выказанай да нашага Максіма, сагрэтага колісь у Прыволжы, расейскай паэткай Міленай Раждзественскай:

**І святло над Нявой**
**раз'ясняецца проста ў Сусвет!**
**Хай пра тое раскажа**
**Максім Багдановіч,**
**мой далёкі паэт,**
**З ласкі Божай вечны паэт.**

...Хай раскажа здалёк нам пра нас наш няўмерлы паэт... Мы цяпер навучаемся сэрцамі слухаць...

**Антаніна ХАТЭНКА.**

# У СЯМ'І ЎСЕ — МАСТАКІ



**Прыемнай нечаканасцю стала выстава сям'і Татарнікавых у цэнтральным мастацкім салоне Брэста. Справа ў тым, што гэта іх першая выстава ўвогуле, хаця старэйшыя Татарнікавы прысвяцілі любімай справе амаль трыццаць гадоў. Галава сям'і — выкладчык дзіцячай мастацкай школы Юлій Татарнікаў, нібы клапатлівы трэнер, адшуквае юныя дараванні і дапамагае ім развіваць свае здольнасці. Многія яго вучні ўжо сталі прафесійнымі мастакамі, як, уласна, і сам настаўнік, у якога нямала цікавых работ, выкананых алеем. Жонка Юлія Іванавіча — Валянціна Аляксандраўна піша цудоўныя партрэты, займаецца манументальным жывапісам. Да нядаўняга часу на працягу чвэрці стагоддзя яна загадвала бюро прамысловай эстэтыкі электрамеханічнага канцэрна.**

**Дзеці Татарнікавых Святлана і Павел пачалі маляваць амаль з дзяцінства. Ім дазвалялася многае, чаму часам зайздросцілі суседскія дзеці: з усёй неўтаймаванай дзіцячай фантазіяй яны размалёўвалі, напрыклад, сцены кватэры. Абодва потым скончылі Беларускую акадэмію мастацтваў, сталі прафесійнымі мастакамі. Павел захапляецца графікай. Яго работы прадстаўляліся на прэстыжных выставах у Японіі, Францыі, Іспаніі. Святлана — вялікі майстар камп'ютэрных графічных адлюстраванняў, якімі аформлены офісы многіх вядомых фірм.**

**Выстава і складаецца з работ, выкананых у стылі, уласцівым кожнаму члену сям'і. А ўсяго іх тут каля ста.**

**НА ЗДЫМКУ: сям'я ТАТАРНІКАВЫХ.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**



# ПРЫСУТНАСЦЬ У ЧАЛАВЕЧЫХ СЭРЦАХ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

**Над Беларуссю — сэрэбраны ветах,**
**І Беларусь мая — папарaць-кветка.**
**Гэта сыны ёй**
**наканавалі,**
**тыя,**
**што маці сваю шанавалі.**
**Каб не згасала імя дарагое,**
**азёрнае,**
**баравое,**
**Каб з нашых песень**
**шэрыя гусі**
**неслі у вырай**
**грай Беларусі.**

Прыязджаючы ў Мінск з Львова, дзе Сяргей Панізьнік вучыўся ў Вышэйшым ваенна-палітычным вучылішчы, абавязкова забягаў у "Голас Радзімы", прыносіў то верш, то карэспандэнцыю, то проста, каб падзяліцца навінамі.

А гартала я старонкі старых газет пасля творчага вечара старшыні рады таварыства "Беларусь — Латвія", намесніка старшыні рады сябрыны "Беларусь — Чэхія", паэта Сяргея Панізьніка, які адбыўся ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.

У Сяргея Панізьніка шмат сяброў сярод грамадскіх дзеячаў і навукоўцаў, калег-пісьменнікаў, журналістаў і кампазітараў, якія пішуць песні на яго вершы. Яму гаварылі шчырыя, прачулыя словы. З выступленняў розных людзей, з якімі жыццё зводзіла ў розны час, складвалася біяграфія творцы, чалавека няўрымслівага, знаўцы многіх літаратур, адкрывальніка новых імёнаў, даследчыка малавядомых старонак беларускай гісторыі і літаратуры. "Ён не ўмее ашчаджаць сябе, — сказаў пра Сяргея Панізьніка Часовы паверaны ў справах Чэхіі ў Рэспубліцы Беларусь Душан Даскочыл. — Ён любіць людзей і раздае сябе".

Даследчык літаратуры прафесар Вячаслаў Рагойша напісаў сваю першую рэцэнзію на першую кніжку С. Панізьніка "Кастры Купалля". Было гэта ў 60-я гады, і для таго часу само паняцце Купалле і тым больш гэта слова ў назве кнігі было ўжо смеласцю. Як смеласцю было і тое, што вайсковы чалавек, лейтэнант Савецкай Арміі гаварыў на беларускай мове.

Адзін з патрыярхаў беларускай літаратуры Сяргей Грахоўскі, віншуючы малодшага калегу, згадаў, што быў адным з тых, хто блаславіў на творчасць пачынаючага паэта Сяргея Панізьніка. Першая сустрэча была завочнай, калі Сяргею Іванавічу ў Міёрах у раённай газеце паказалі вершы маладых паэтаў, і ён зацікавіўся Панізьнікам і даў у друк падборку яго вершаў са сваёй прадмовай. Другі раз у Празе, у пакоі спевака Міхася Забэйды-Суміцкага, на раялі ўбачыў фатаграфію прыгожага юнака ў вышыванай кашулі. "Цудоўны хлопец і добры паэт", — сказаў пра Панізьніка Забэйда-Суміцкі. Яны сябравалі, і Сяргей Панізьнік удзячны лёсу за гэту сустрэчу.



Лідзія Савік адзначыла, што вяртанне чытачам выдатнага рамана Віктара Вальтара "Роджаныя пад Сатурнам" — вялікая карпатлівая работа Сяргея Панізьніка. Раман быў упершыню надрукаваны ў "Голасе Радзімы", а потым з прадмовай Лідзіі Савік падрыхтаваны да выдання ў выдавецтве, але пакуль што так і не пабачыў свет.

Праз усё жыццё С. Панізьніка, пачынаючы з яго першага зборніка, прайшоў Янка Купала. Цяпер яны паядналы найбольш цесна. Ужо год паэт працуе ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Вітаць яго прыйшлі амаль усе супрацоўнікі, а Ядвіга Раманоўская ўзнагародзіла С. Панізьніка памятным медалём Янкі Купалы.

Па аб'ёму зробленай працы Сяргей Панізьнік даўно мог бы быць прафесарам, абараніць не адну дысертацыю. Але яму не было часу пісаць іх. Ён абраў шлях, ідучы па якім, імкнецца зрабіць як мага больш не для сябе, а для літаратуры — беларускай, латышскай, чэшскай. "Таму і не мае ні дысертацый, ні званняў", — сказаў пра калегу У. Скарынкін.

На вечары было многа музыкі, беларускай, латышскай, чэшскай. Гучалі песні на вершы паэта, было шмат кветак, шчырых усмешак і пажаданняў.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: юбіляра вітаюць супрацоўніцы Літаратурнага музея Янкі Купалы; Сяргей ПАНІЗЬНІК; ён жа — з Сяргеем ГРАХОЎСКІМ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



**Сяргей ПАНІЗЬНІК**

## ПОПЕЛ ВЕЗУВІЯ

Для радасці жывёмі, а не для злобы.
Не спынім дзеля вольнасці двубой:
па сёння нада мною і табой
нясцішаным Везувіем — Чарнобыль.

Абараніць сваіх дзяцей паспелі!
Дваццаты век, паўсюль тваe Пампеі.
Дваццаты век з пажарышчаў,
ільдзін...
і нават Бог для ўсіх нас не адзін.

Абуджаным Везувіем — Чарнобыль.
На Страшны Суд пагнала нас бяда.
Над галавой звісае свалата
ранетам з радыеактыўнай пробай.

Яго ніколі я не праглыну.
Хоць і змушае злыдзень тупаловы, —
не аддамо свой лёс мы Палыну,
не аддамо сябе мы пад Чарнобыль!

## НА ПРАЖСКІМ ХОДНІКУ

Купала ветла-далікатна
Ларысу Геніюш вядзе.
Ні інквізітара, ні ката
няма нідзе у грамадзе.

І Прага паглынае крокі,
іх атуляе галасы.
Няма цанаўскай памарокі,
панамарэнкаўскай лазы.

Не зацінаюць горла спазмы,
не малакровіцца спадзеў...
У Вінаградах з выспы-пасмы
на іх з Забэйдам я гляджу.

Разводдзя падсыхала брага.
Скарыны рэха — між мурoў...
Нагадавала Злата Прага
будзіцеляў-валадароў.

Ляўкамі ці Інтой карацца
паэты будуць. Іх папас —
ГУЛАГаўская эміграцыя...
Купала, Геніюш — між нас!

Наш весні Час, не будзь накатны!
Згадай у мутнай злыбядзе:
праз Прагу ветла-далікатна
Ларыса Яначчку вядзе.

## ПРАВОДЦА

*Міколу ЕРМАЛОВІЧУ*

Быў час, які дажджамі цёпкаў.
Ад маладзечанскіх алей
мы з Вамі ехалі да Цёткі
на стогадовы юбілей:

Ў мячэці рэбры галасілі, —
студзіў Гальшанаў сорам-хлам...
Глядзелі вочы Ефрасінні
з царкоўнай нішы ў вочы нам.

Накручвалі на аўтаколы
вякоў злінялы зрэбны час...
...Зацыраваў спадар Мікола
не хатулёк, айчынны пас,

якім, калі падперазацца
і дбайна выправіцца ў шлях, —
якраз паспеем аказацца
там, дзе Радзіма, дзе ў палях
надзеі рунь, свабоды бом,
дзе наш, спадар Мікола, Дом.

*30 красавіка 1996 г.*

## НА КРЫЛАХ ВЫРАЯЎ

*Сяргею Іванавічу ГРАХОЎСКАМУ*

Адзіны грэх Грахоўскі меў:
небеларусам быць не ўмеў.
І не разбілі, як арэх,
Грахоўскага пакутны грэх.
А меў жыццё, ў якое гром
біў перунамі... А паром
пад маланёю над чалом
на быстраку ракі нямеў.

Грахоўскі меў адзіны шлях,
дзе праз ГУЛАГ айчынны дах
не быў відзён. Ламаўся крок...
Але яснеў у вязня зрок!

Арэх і грэх, паром і гром —
усё ў радках. А лёс-разлом
запрасаваў у кніжны том.
І сам — шпаком — там, у палях,
дзе в о л ю выраям займеў.

## АПРАЎДАННЕ ПЕРАД ФРАНЦУЗАМ

Ларан Груэль, паэт з Парыжа,
сказаў, прабегшы мой радок:
"Нудота!" Так, монсьё-браток:
Я ж не пішу — лажуся крыжам...
А да любоўнага узвышша
патрэбен борздзенькі хадок.
Ідзю валаку за грыву,
за хвост цягну таго каня,
які — гербоўным — не радня.
Патрыятычнаму парыву
я ахвярую жарсць надрыву...
Нуда — адвеку. Боль — штодня.
Ларан Груэль! Табе — усмешкай
Парыж, Бастылія, Версаль...
А мне Вандзя — жах і жаль.
А я іду самотнай сцежкай.
Мой — з-пад ашмоцця сцяга —
вершык
так роспачна глядзіць удаль.
Край гарызонта — гільяцінай
завіс над спуджанай зарой...
...А недзе золкавай парой
мужчына цешыцца з жанчынай, —
і над катэджавай хацінай
вісіць вясёлых думак рой.

Так, я — дзівак, Ларан Груэль:
вяду нудотную дуэль.

## ВЫРАШЭННЕ СПРЭЧКІ ГАРАДОЎ І НАРОДАЎ

*Старшыні рады таварыства "Беларусь—Кітай" Анатолю ВЯРЦІНСКАМУ*

Любіў прывабна і ў зіму
ён з Юрмалай вітацца...
Латыш — Вярцінскі. І таму
не аддамо кітайцам.

На чарнаморскую карму
ўзбіраўся за загарам...
Вярцінскі — братушка. Таму
не аддамо баўгарам.
Збіраў інжыр. Хваліў хурму,
пад паранджою танцы,
юр персіянкі... І таму
не аддамо іранцам.
Амерыканскую гурму
глушыў сірэнай творца...
Крывіч — Вярцінскі. І таму
не аддамо нью-ёркцам.
І осэлэдэц, і чалму
схапіў радком каляным.
Сож і Дняпро прыдзіў... Таму
не аддамо кыянам.
Ён ваяўнічую сурму
ўздымае там, дзе звяга...
Баец — Вярцінскі. І таму
не аддамо яцвягам.
З Парыжа ў Рым, на Калыму
лятае, як цунамі...
Паэт — Вярцінскі
Быць яму
заўжды з у с і м і намі!

* * *

Для травастою, для відзежы
няма граніцы. Ёсць сумежжа.
Плынь Часу нельга раздзяліць.
І стынь — без граняў — ўся баліць.

Чакае дабудовы вежа,
калі каменьчык агаліць.
Праз нас
вякоў напята ніць.
І — непарушная — звініць
жыцця суцэльная відзежа.

* * *

Прыгарнула, прытуліла, —
і не збочыцца.
Шэры попел накаліла.
Ласкі хочацца...
Вырываецца з цянётаў
абамлелых летаў-годаў
воля-лётчыца.

З утрапення узгадую
промні просіні.
Пад падумку маладую
атуліў высь крутую
крылы восені.

## ВЫСТАВЫ





**Больш за сто работ прадставілі на выставе, якая адкрылася ў Артцэнтры Марка Шагала, выхаванцы 14 дзіцячых мастацкіх школ Віцебшчыны.**

**НА ЗДЫМКАХ: знаёмства з экспазіцыяй; "Купальская ноч" — работа Надзі СЦЯПАНАВАЙ з Лепеля.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

# ПРЫСВЕЧАНА ПРЫРОДЗЕ

Упершыню ў рэспубліцы выдадзена серыя марак, прысвечаная рыбам — насельнікам беларускіх рэк. У серыі чатыры маркі і выдатна аформлены паштовы блок, на якіх паказаны — фарэль ручаёвая, усач, рыбец, сцерлядзь і харыус звычайны. На марках адлюстравана толькі малая частка рыбнага багацця рэспублікі. А ўсяго ў іхтыяфауне Беларусі прадстаўлена 16 сямействаў, 45 родаў і 54 віды рыб. З іх 18 відаў жывуць толькі ў рэках, 6 — у азёрах. Першыя апісанні іхтыяфауны Беларусі — так званыя інвентарызацыйныя спісы рыб — былі ажыццёўлены ў другой палове XIX стагоддзя. У 1904 годзе была апісана іхтыяфауна нарачанскіх і браслаўскіх азёр, рэк Нёмана, Шчары, Буга і іншых. Да пачатку XX стагоддзя з іхтыяфауны нашага краю зніклі многія віды рыб — бялуга, асетр, сазан і іншыя каштоўныя пароды.

Новая серыя марак, выкананая мастаком А. Федзіным, прыгожая і арыгінальная. Яшчэ да іх выпуску ў паштовае абарачэнне быў выдадзены спецыяльны канверт "Першага дня", на малюнку якога паказаны насельнікі падводнага царства. 10 красавіка на Мінскім паштамце было ажыццёўлена гашэнне карэспандэнцыі арыгінальным штэмпелем з адлюстраваннем рыбы. Упершыню ў практыцы беларускай пошты да выпуску серыі былі выдадзены спецыяльныя мастацкія паштоўкі з адлюстраваннем тых жа рыб, што і на марках. Выпуск паштовак быў ажыццёўлены спецыяльна для так званых карт-максімумаў. Сярод філатэлістаў і за мяжой, і ў нашай рэспубліцы вельмі распаўсюджана калекцыяніраванне карт-максімумаў. Існуе нават раздзел філатэліі — максімафілія. Мастацкая паштоўка, на правым баку якой наклейваецца паштовая марка з малюнкам, што дакладна паўтарае адлюстраванне на паштоўцы, і з'яўляецца карт-максімумам. Філатэлістычную каштоўнасць карт-максімум набывае толькі тады, калі паштовая марка пагашана спецыяльным штэмпелем, непасрэдна звязаным тэматычна з малюнкам. Што і было зроблена з новым выпускам серыі, прысвечанай рыбам. Філатэлісты рэспублікі і іх замежныя калегі папоўнілі свае калекцыі першым наборам беларускіх карт-максімумаў. Відаць, некалькі слоў варта сказаць і пра рыб, паказаных на марках новай серыі. Усе яны не з'яўляюцца прамысловымі рыбамі, таму што ў рэках рэспублікі сустракаюцца рэдка.




Нібы працягам серыі марак аб роднай прыродзе стала яшчэ адна серыя мініяцюр, якая мае загаловак — "Ахова навакольнага асяроддзя". Серыя арыгінальная па задуме і выкананню: дзве маркі і купон між імі ў гарызантальнай счэпцы. Маркі выдадзены да прайшоўшай у Мінску 16—18 красавіка гэтага года Міжнароднай канферэнцыі па ўстойліваму развіццю краін з пераходнай эканомікай. Ініцыятарам правядзення гэтай канферэнцыі выступіў урад Беларусі пры садзейнічанні ААН. Таму на марках прысутнічае эмблема ААН, а на купоне выпуску — эмблема канферэнцыі: блакітны зямны шар, апразаны зялёнай стужкай. Злева ад купона на марцы від планеты. Зямля з космаса. На яе паверхні з белых аблокаў саткана слова "SOS" — планета просіць дапамогі. На марцы справа ад купона дадзена адлюстраванне рукі чалавека, што абараняе ад бяды прыроду планеты: птушак, кветкі, рыб, гародніну, насякомых. Экалагічная сітуацыя ў свеце імкліва пагаршаецца: большая частка рэсурсаў планеты вычарпана, а гэта пагражае катастрофай сусветнага маштабу. І перш за ўсё пацерпіць эканоміка малых краін.

У дні працы канферэнцыі на паштамце сталіцы было праведзена гашэнне карэспандэнцыі спецыяльным штэмпелем "Белпошты" з эмблемай форуму. Гэтая ж эмблема была змешчана на канверце "Першага дня".

**Леў КОЛАСАЎ.**

***Шэраг нацыянальных трагедый, што выпалі на долю беларускага народа, паставілі на мяжу яго духоўныя і фізічныя сілы. Менавіта вера ў Бога дапаможа вярнуць беларусам маральныя цноты, думку, слова, індывідуальнасць, выратаваць люд беларускі з абцугоў самазнявагі, знішчэння лепшых рысаў асобы. Роля чалавека багатага духоўнага свету сёння надзвычай важная, калі так неабходна падтрымаць у нашым народзе веру ў свае сілы, самапашану, трапяткое стаўленне да Бога.***

***З мэтай адраджэння нацыянальных духоўных, культурных, гістарычных хрысціянскіх каштоўнасцяў на Беларусі, данясення Божага слова да сэрцаў людскіх, выхавання рэлігійнай талерантнасці і рэалізацыі ідэй полікультурнай і элітарнай адукацыі ініцыятыўная група з ліку прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі Беларусі лічыць неабходным***

**СТВАРЭННЕ КАТАЛІЦКАЙ СІСТЭМЫ СКРАЗНОЙ (НЕПАРЫЎНАЙ) НЕДЗЯРЖАЎНАЙ АДУКАЦЫІ (ДЗІЦЯЧЫ САД - ГІМНАЗІЯ, ЛІЦЭЙ - ВНУ).**

**Першы крок у згаданым кірунку — стварэнне БЕЛАРУСКАГА КАТАЛІЦКАГА УНІВЕРСІТЭТА,**

які дасць магчымасць атрымання сучаснай еўрапейскай вышэйшай адукацыі (спецыяльнасці — "тэалогія", "катэхізацыя", "філасофія", "філалогія").

Высокая якасць падрыхтоўкі спецыялістаў будзе забяспечвацца выкладчыцкай працай вядомых вучоных краін Еўропы, Беларусі.

Выкарыстанне заходніх мадэляў адукацыі і вывучэнне замежных моў, супрацоўніцтва з аналагічнымі навучальнымі ўстановамі Заходняй Еўропы паслужаць гарантыяй працаўладкавання як на Беларусі, так і за мяжой.

Сфера дзейнасці выпускнікоў — у касцельных структурах, у рэдакцыях, выдавецтвах, у дзяржаўных арганізацыях у якасці рэферэнтаў, спецыялістаў па справах рэлігій, у сістэме адукацыі і навукі і г. д.

Маючы Блаславенне і падтрымку Яго Эмінэнцыі шанаванага Ксяндза Кардынала Казіміра Свёнтэка і каталіцкага касцёла на Беларусі ў цэлым, чакаем ад усіх зацікаўленых гэтым праектам канструктыўных прапаноў, канкрэтных ідэй (у частцы фінансавання, структуры, арганізацыі такой навучальнай установы і інш.)

***на адрас: 220050, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15, Інстытут Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, сектар філалогіі, Любоў КАНАПЛЯНІК, тэл. 222-60-59).***

## МОДА-97



**Калекцыя летняга адзення "Вытокі", у якой спалучаюцца асаблівасці славянскіх культур і выкарыстаны элементы вышыўкі, ткацтва, мярэжкі і пляцення, заняла прызавое месца на апошняй выставе "Мадэль года" ў Бабруйску. А прадставіў яе Тэатр моды, які існуе ўжо некалькі гадоў пры вышэйшым прафесійным вучылішчы бытавога абслугоўвання насельніцтва.**

**Усе ўзоры адзення выраблены навучэнцамі гэтага вучылішча, дэманстравалі мадэлі таксама навучэнцы — манекеншчыцы Тэатра моды.**

**НА ЗДЫМКУ: манекеншчыцы Тэатра моды — навучэнцы вучылішча.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 745. Падпісана да друку 26.5.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.